ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ




# ДЗЕДЗІЧ

*Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць.*
*(Янка КУПАЛА)*

№ 4 (23)
КАСТРЫЧНІК 2003



# А ХТО ТАМ ІДЗЕ?

Газета, якую ты зараз трымаеш у руках, – маладзевае выданне з трохгадовымі традыцыямі і досведам дзейнасці ва ўмовах "тутэйшай дэмакратыі". Ад астатняй прэсы, якую табе даводзіцца чытаць, яна прынцыпова адрозніваецца сваёй асноўнай мэтай. Мы робім яе не для таго, каб расслабіць цябе ці дапамагчы забіць вольны час. І так ужо досыць расслабляліся і валялі дурня. Мы збіраемся пісаць і несці табе тое, чым жыве твой горад, твая краіна, чым жыве ўвесь свет і варта жыць нам. Мы будзем рабіць усё, каб як мага больш маладых людзей адчулі сябе сапраўднымі грамадзянамі сваёй Радзімы, каб берасцейская моладзь далучылася да руху за адраджэнне вольнай і квітнеючай Беларусі.

Мы – гэта Брэсцкае абласное маладзёжнае грамадскае аб'яднанне "Сузор'е". Мы – гэта тыя, хто будзе жыць у Беларусі XXI стагоддзя. Мы – гэта людзі, якія мараць убачыць сваю Радзіму квітнеючым садам, а яе народ – вольным, заможным і шчаслівым.

Мы збіраемся, каб разам шукаць шляхі пабудовы новага грамадства, каб вырашаць, якім павінен быць край, у якім мы жывем, край, дзе будуць нараджацца нашы дзеці.

І ты, шаноўны дружа, калі ты яшчэ верыш у магчымасць адраджэння нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны, не стой у старонцы! Станавісь поплеч! Калі ты хочаш убачыць сваю краіну вялікай – стратэгічным мостам паміж Расеяй і Захадам, фінансавым, тэхналагічным і інфармацыйным цэнтрам сусветнага ўзроўню, – далучайся! Калі ты спадзяешся зрабіць свой горад еўрапейскім форумам, турыстычным цэнтрам альбо проста ўтульным і чыстым домам – хадзем да нас! Мы чакаем цябе. Нам патрэбны твае ідэі, твае думкі, твае надзеі. Твой малады запал, напорыстасць і навізна мыслення, як ніколі раней, неабходны зараз. Разам заўжды лягчэй, спрытней і весялей. Разам мы будзем мацней, чым паасобку. Толькі разам мы здолеем пабудаваць новую дэмакратычную еўрапейскую краіну. Будзем разам!

Магчыма, чытаючы гэтыя радкі ты думаеш: "Ну вось, зноў палітыка. Мяне гэта не датычыцца". Тады ты памыляешся. Палітыка, у перакладзе з грэчаскай, – мастацтва кіравання дзяржавай. Сфера ж нашай дзейнасці – сацыяльныя і экалагічныя праблемы, адраджэнне традыцый беларускай культуры і абарона правоў моладзі, г. зн. усё тое, што турбуе зараз нашае грамадства. Хіба ж гэта палітыка?

Калі ты не згодзен атрымоўваць падачку замест зарплаты, калі твае бацькі вымушаны ездзіць у Польшчу "на заробкі" пасля работы, каб аплаціць тваё навучанне, калі ты не хочаш дыхаць атручаным паветрам і піць атручаную ваду, калі табе абрыдла слухаць хлусню на БТ, калі табе балюча чуць, як зневажаюць, абкрадваюць гісторыю і культуру тваіх продкаў, калі табе сорамна глядзець, як насміхаюцца з дзяўчынкі, што гаворыць на чыстай беларускай мове (такія выпадкі нярэдка здараюцца ў аздараўленчых лагерах) – хіба гэткая "палітыка" цябе не датычыцца?! Тое, што мы робім, тое, да чаго мы запрашаем цябе, гэта не палітыка, гэта – тваё жыццё!

НЕ ПАТРЭБНЫ
ХЛЕБ ДЫ КАША
ХАЙ ЗАЎСЁДЫ
ПРАВІЦЬ С ЦЭНЗУРА

– прыходзь да нас. Разам мы будзем адказваць на пытанні, якія ставіць нам сучаснасць. Разам мы будзем шукаць выйсце з крызісу, што ахапіў нашу краіну. Адзіны шлях да шчаслівай будучыні кожнага з нас – стварэнне моцнага агульнанацыянальнага руху за дэмакратычныя пераўтварэнні, за свабоду і працвітанне незалежнай Беларусі. І ў гэтым руху павінен апынуцца


Удзельніца пікета у Барысаве.

Моладзь, а асабліва моладзь студэнцкая, спрадвек была правадыром прагрэсіўных ідэй, заўсёды імкнулася да свабоды і справядлівасці. Хіба можам мы зараз застацца ў баку, прамаўчаць? Маўчанне – знак згоды. Але мы – не згодны. І мы не будзем маўчаць, калі за нас спрабуюць вырашаць наш лёс! Хто згодзен, каб яго крыўдзілі, зневажалі і пагарджалі ім у яго ўласным доме?

Калі ты падзяляеш наш непакой аб будучыні, калі ты хочаш прынесці карысць Радзіме, кожны сумленны грамадзянін, кожны сапраўдны патрыёт і годны нашчадак славутых дзеячоў нашай Мінуўшчыны!

**Старшыня Рады БАМГА "Сузор'е"**
**Дзмітрый ШЫМАНСКІ**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!!!

Кантактныя тэлефоны: 20-57-41 (з 18⁰⁰ да 21⁰⁰),
(029) 660-57-41 (Дзмітрый),
(029) 725-15-39 (Андрусь).

## АДНЫМ РАДКОМ

### НАВІНЫ МОЛАДЗЕВЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ – У ЭЛЕКТРОННАЙ РАССЫЛЦЫ

Фонд "Дзедзіч" распачаў выпуск электроннай рассылкі Dzedzich week-news з навінамі жыцця моладзевых арганізацый (МА) Берасцейшчыны. Таксама ў рассылцы змяшчаецца інфармацыя аб адукацыйных праграмах, семінарах, аб'явы аб конкурсах праектаў і стыпендый і, безумоўна, крыху гумару.

Рассылка будзе штотыднёвай, але чым больш будзе навін, тым часцей яна будзе выходзіць. Просім усе МА дасылаць нам інфармацыю пра свае мерапрыемствы – былыя і плануемыя.

Калі вы ведаеце МА ў вашым рэгіёне, якія былі б зацікаўлены ў атрыманні нашай рассылкі і ў асвятленні сваёй працы на яе старонках, просім паведаміць нам іх кантакты.

Падпісацца на рассылку можа любы жадаючы. Трэба толькі даслаць ліст на адрас: dzedzich@mail.ru.

**Dzedzich week-news**

### ЧАРГОВАЯ ЎТОПІЯ, ЦІ...

4 кастрычніка ў памяшканні Фонда "Наша Вежа" прайшоў Круглы стол моладзевых грамадскіх арганізацыяў Берасцейскай вобласці. "Моладзевы рух Берасцейшчыны. Учора. Сёння. Заўтра": такая тэма пасяджэння была прапанавана арганізатарамі - прадстаўніцтвам фонда IDEE. Больш за 20 кіраўнікоў найбольш уплывовых недзяржаўных моладзевых арганізацый з усіх куткоў Берасцейшчыны абмеркавалі праблемы, што перашкаджаюць развіццю моладзевага руху ў краіне і нашым рэгіёне, падзяліліся сваім бачаннем перспектыў яго развіцця на бліжэйшыя гады.

Але галоўны вынік сустрэчы – у іншым. Пераважная большасць моладзевых арганізацый дала папярэднюю згоду ўдзельнічаць у вялікай агульнаабласной сацыяльнай кампаніі, скіраванай на папулярызацыю моладзевага руху і стварэнне станоўчага іміджу моладзевых НДА ў грамадстве. Плануецца, што ў рамках кампаніі пройдуць сацыяльныя, экалагічныя, культурныя акцыі, імпрэзы, канцэрты, якія будуць арганізоўвацца моладзевымі НДА ў рэгіёнах (супольна, альбо самастойна). Цікава, што праходзіць гэтыя мерапрыемствы будуць пад адным брэндам, і сябры НДА будуць рэкламаваць дзейнасць не толькі сваёй арганізацыі, але і ўсяго моладзевага руху Берасцейшчыны.

Будзем спадзявацца, што гэтая ініцыятыва не застанецца толькі ў выглядзе дэкларацыі аб намерах, як было неаднаразова, і да яе далучацца тыя моладзевыя НДА, што не бралі ўдзел у пасяджэнні Круглага стала. З вуснаў некаторых удзельнікаў сустрэчы прагучалі словы надзеі, што плённая супраца ў рамках гэтай кампаніі стане добрым падмуркам для стварэння з цягам часу паўнавартаснай і ўплывовай кааліцыі моладзевых НДА Берасцейскай вобласці.

**Dzedzich week-news**



## ВІНЦУК ВЯЧОРКА:

# «МЫ ВЫБІРАЕМ БАРАЦЬБУ»

ПАРТЫЯ БНФ ВЫХОДЗІЦЬ З КРЫЗІСУ, У ЯКІ ЯЕ ЗАГНАЛІ ЎЛАДЫ. ГЭТА АДЧУВАЕЦЦА І Ў СТАЛІЦЫ, І Ў РЭГІЁНАХ, У ЯКІХ АПОШНІМ ЧАСАМ ПАРТЫЙНАЕ КІРАЎНІЦТВА ПРАВЯЛО ШЭРАГ ПРАЦОЎНЫХ СУСТРЭЧ З МЯСЦОВЫМІ АКТЫВІСТАМІ. НА АДНЫМ З ТАКІХ СХОДАЎ, ШТО АДБЫЎСЯ ДНЯМІ Ў г. БЯРОЗА, МЫ І ПАРАЗМАЎЛЯЛІ З ЛІДЭРАМ ПАРТЫІ БНФ сп. ВІНЦУКОМ ВЯЧОРКАМ АБ ПЕРСПЕКТЫВАХ ПАРТЫЙНАГА БУДАЎНІЦТВА, АБ РОЛІ І МЕСЦЫ ПАРТЫІ Ў ГРАМАДСТВЕ.



**Партыя БНФ сёлета ўпершыню за шмат гадоў брала ўдзел у мясцовых выбарах. Якія мэты ставіліся вамі на гэтыя выбары і наколькі іх удалося дасягнуць?**

Мясцовая кампанія была для нас найперш магчымасцю дайсці да соцень тысяч людзей, натхніць гэтых людзей, многія з якіх ужо расчараваліся ва ўладзе Лукашэнкі, яго эканамічнай сістэме, у знешнепалітычнай ізаляцыі, якую гэтая ўлада стварыла.

І, натуральна, гэта была магчымасць паказаць людзям, што Партыя БНФ прапаноўвае рэальныя шляхі выйсця і з агульнага крызісу і рэальныя шляхі вырашэння мясцовых праблем.

Мы выставілі парадку 250-ці прэтэндэнтаў на мясцовыя выбары па ўсёй краіне. Людзі вылучаліся кандыдатамі дзеля ідэі, таму што мала хто спадзяваўся прарвацца праз густыя фільтры, якія супраць нас выставіла ўлада. І сярод 100 з нечым чалавек, імёны якіх былі ўсё ж такі ўнесеныя ў бюлетэні, сёння 23 з'яўляюцца дэпутатамі мясцовых саветаў.

**А ці дасягнулі вы мэты дагрукацца да сэрцаў выбаршчыкаў, паказаць альтэрнатыву рэжыму Лукашэнкі? Ці ёсць нейкія колькасныя паказчыкі. Скажам, ці павялічылася колькасць прыхільнікаў, колькасць сябраў партыі?**

Што да колькасці сябраў, то, безумоўна, у нашай запалоханай краіне далёка не кожны, хто прыхільна ставіцца да Народнага фронту, яўна ў яго запішацца.

А колькасць прыхільнікаў вымяраецца сацыёлагамі. Па даследаваннях, якія праводзілі іншаземныя сацыялагічныя службы, у лістападзе мінулага году ў нас было 17-18% прыхільнікаў, а цяпер 23%. Я схільны гэтыя 5-6% залічваць на мясцовую кампанію. Мы паказаліся людзям як нармальныя, адукаваныя, адэкватныя палітыкі, здольныя гаварыць з людзьмі на іхняй мове і адказваць на іхнія пытанні. Бо мясцовы кандыдат павінен гаварыць не толькі пра высокую палітыку. Ён павінен гаварыць пра гарачую ваду, пра разбітыя дарогі, пра асвятленне, і прапаноўваць канкрэтныя шляхі вырашэння гэтых праблем.

**Мясцовыя выбары, відаць, першы крок па аднаўленню іміджу Партыі БНФ у грамадстве, па вяртанню сваіх колішніх пазіцыяў. Якія мэты ставіце на парламенцкія выбары 2004 г.?**

У пэўным сэнсе падобныя. Гэта значыць, мы будзем дабівацца перамогі дзеля таго, каб прарвацца ў заканадаўчы орган краіны. Таму мы плануем выстаўляць моцную каманду прэтэндэнтаў.

І, паралельна, будзем вырашаць стратэгічную задачу на наступныя некалькі гадоў. Мы павінны здабыць сімпатыі бальшыні насельніцтва з тым, каб яно было гатовае да паваротных зменаў. У 2006г. будуць прэзідэнцкія выбары. Вось жа выбары наступнага году трэба разглядаць як падрыхтоўку да іх. Калі нам удасца дайсці да мільёнаў людзей, то гэта будзе таксама перамогай.

**Дарэчы, на тэму прэзідэнцкіх выбараў. Хто, на Вашу думку, можа стаць той асобай, той альтэрнатывай сучаснай уладзе, якую падтрымае большасць грамадства?**

Сёння каля 65% беларусаў не вераць Лукашэнку і супраць таго, каб ён і надалей быў прэзідэнтам краіны. Але, з іншага боку, прыхільнікі дэмакратычнай апазіцыі складаюць толькі 25%. І Лукашэнку верыць таксама чвэрць насельніцтва. Атрымліваецца, што бальшыня нашых людзей ужо не верыць Лукашэнку, але яшчэ не знайшла, што выбраць у якасці альтэрнатывы. Гэта значыць, што бліжэйшыя парламенцкія выбары дазволяць розным лідэрам на практыцы паказаць, ці здольныя яны здабыць перамогу, альбо прынамсі арганізаваць палітычна актыўных людзей на барацьбу за свабоду і дэмакратыю. Гэта будуць своеасаблівыя прэзідэнцкія "праймерыз", папярэдні прагляд патэнцыялу прэтэндэнтаў на выбары 2006г.

Скажу, хто напэўна не мусіць быць прэтэндэнтамі на пасаду прэзідэнта. Мы маем сумны досвед некіравальнасці, непадкантрольнасці прэтэндэнтаў ад наменклатуры. Калі чалавек мае толькі наменклатурны досвед сядзець у кабінетах з сакратаркамі ды кіроўцамі і адміністрацыйным апаратам напагатове, ён не надта разумее, што такое сучасная палітычная барацьба ва ўмовах палітычнай дыктатуры. Вось жа прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта не павінны быць такімі людзьмі.

**Давайце вернемся да парламенцкіх выбараў. Зараз створана пагадненне пяці партыяў, у якое ўвайшлі прадстаўнікі розных, часам несумяшчальных ідэалогій - ад камуністаў і сацыял-дэмакратаў да лібералаў і кансерватараў. На якім грунце ўдалося аб'яднаць такія розныя сілы?**

У пагадненне пяці партыяў уваходзяць Партыя БНФ, Партыя працы, Аб'яднаная грамадзянская партыя, Партыя камуністаў Беларуская і Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада. Кожная з іх самастойна йшла на мясцовыя выбары і кожная з іх пераканалася і паказала іншым, што нешта можа зрабіць. Але, не змяніць сітуацыю цалкам.

ЁСЦЬ ТАКАЯ ПАРТЫЯ!

# «ЗА СВАБОДУ БЕЛАРУСІ!»




Над намі навісла рэальная небяспека рэферэндума пра трэці прэзідэнцкі тэрмін і пра канстытуцыйны акт так званай Саюзнай дзяржавы. А ўсе пяць партыяў згодны, што ніякі рэферэндум не можа быць праўдзівым ва ўмовах, калі ў выбарчых камісіях няма прадстаўнікоў апазіцыі, калі вынікі могуць быць сфальсіфікаваныя, калі на дзяржаўнае тэлебачанне не дапускаюць нікога з адрозным гледзішчам. І першай рэальнай нашай сусправай было пагадненне аб супольным процістаянні трэцяму прэзідэнцкаму тэрміну. Мы выпрацавалі каляндарны план супольных захадаў на выпадак абвяшчэння рэферэндуму. І гэта быў той грунт даверу, на якім стаіць зараз пагадненне.

Мы не зліваемся, не аб'ядноўваемся, не ствараем палітычны блок, таму што мы сапраўды вельмі розныя. Але, гэта ж да чаго трэба было давесці краіну, каб такія палярныя сілы як БНФ і камуністы пра нешта паміж сабой дамовіліся! Ёсць два асноўныя прынцыпы, на якіх гэтае аб'яднанне адбываецца: "Дамагчыся дэмакратыі, збярогшы незалежнасць". Дэмакратыя і незалежнасць. Гэтыя прынцыпы падзяляюцца ўсімі пяцю партыямі. Астатняе сёння - дэталі.

Мы дамовіліся пра стварэнне супольных спісаў кандыдатаў. У аптымальным варыянце кандыдатаў павінна быць 1-2 на кожнай выбарчай акрузе. Не абавязкова гэта павінен быць адзін. Хай бы йшоў "бэнээфавец" і камуніст. Яны, ў прынцыпе, не перашкаджаюць адзін аднаму, бо маюць падтрымку ў розных пластах насельніцтва. І ўжо сёння мы наклалі свае спісы кандыдатаў на мапу Беларусі і пабачылі, што ў 40% акругаў гэты вынік – 1-2 кандыдаты – ужо дасягнуты. У астатніх – будзем дамаўляцца.

**Не так даўно лідэры "пяцёркі" сустракаліся з прадстаўнікамі найбуйнейшых моладзевых дэмакратычных арганізацый краіны ("Зубр", "МФ", "ЛКСМБ" і інш.). Пасля гэтай сустрэчы прадстаўнікі "зуброў" і "маладафронтаўцаў" выступілі з даволі рэзкай крытыкай "пяцёркі". Маўляў, "ізноў на нашых плячах хочуць увайсці ва ўладу", "ім патрэбныя толькі нашыя рукі і ногі", і, галоўнае – "пяцёрка" быццам бы не здолела аб'яднаць усе дэмакратычныя сілы. Як Вы пракаментуеце гэтыя выказванні?**

Мы запрасілі кіраўнікоў моладзевых арганізацыяў, каб прапанаваць ім, усім сябрам гэтых арганізацыяў, нешта рабіць разам. Калі нехта не хоча – нічога страшнага. Практыка мінулай прэзідэнцкай кампаніі паказала, што раней ці пазней у розныя сегменты гэтай кампаніі, скажам, у мабілізацыйную кампанію, негатыўную, уключыліся практычна ўсе, хто жывыя ў нашай краіне. Пазіцыя прадстаўнікоў "Зубра" на гэтай сустрэчы была дастаткова канструктыўнай: калі пяць партыяў дамовіліся і захаваюць сваё паразуменне да выбараў, Зубр будзе сваімі магчымасцямі спрыяць гэтаму адзінству. Будзе займацца мабілізацыйнай кампаніяй, негатыўнай кампаніяй, агітацыяй супраць вядома каго – кандыдатаў ад улады. Ну а што да Паўла Севярынца, які прадстаўляе менскае кіраўніцтва Маладога Фронту, то ён заявіў пра стварэнне нейкага асобнага спісу кандыдатаў, што трошкі недарэчна, таму што Малады Фронт – гэта не палітычная партыя.

Наконт аб'яднання ўсіх дэмакратычных сілаў. Я думаю, што так не будзе, каб усе, хто называе сябе дэмакратамі, апынуліся ў адзіным спісе. Там можа не апынуцца Мікола Статкевіч, лідэр БСДП "НГ", які даўно ўжо заявіў, што ён вядзе сваю самастойную гульню па раскрутцы сваёй уласнай партыі і сваёй персоны. Кожны выбірае свой шлях. Мы выбіраем барацьбу за свабоду Беларусі.

**Вось жа яшчэ Павел Севярынец заявіў, што ў парламенцкай кампаніі Партыя БНФ ставіць на мэце раскрутку свайго іміджу, пазіцыяванне брэнду, але ж не ставіць на мэце перамогу. Што, сапраўды не верыце ў перамогу?**

Я яшчэ раз кажу, што наша мэта – гэта перамога! Перамога ў выглядзе здабытых мандатаў. Калі нам гэта не дадуць – змаганне за сапраўдныя вынікі выбараў. Бо я ўпэўнены, што людзі рэальна прагаласуюць за нашых кандыдатаў. І самай галоўнай перамогай мы будзем лічыць змену настрою нашых грамадзянаў, каб канчаткова перамагчы на прэзідэнцкіх выбарах 2006г.

**Чаму ў пяцёрку не ўвайшлі прадстаўнікі дэпутацкай групы "Рэспубліка"?**

І мы, і іншыя партыі са складу "пяцёркі" з прадстаўнікамі "Рэспублікі" шмат разоў сустракаліся. Выпрацавана пагадненне з "Рэспублікай", якое падпісалі 4 партыі, а мы пакуль толькі парафіравалі. У нас ёсць вельмі простыя ўмовы. Калі, скажам, мы падпісваем пагадненне з Партыяй Працы, мы ведаем, што ў іх ёсць праграма, нейкая колькасць, нейкія структуры. Што такое "Рэспубліка"? Гэтыя людзі патрапілі ў Палату Прадстаўнікоў таму, што яны былі ў спісе Лукашэнкі, у спісе вертыкалі. Яны былі стаўленікамі ўлады.

Праз нейкі момант яны ўсвядомілі, што Беларусь коціцца ў прорву і трэба нешта мяняць. Вельмі добра! Мы радыя! Але яны ў гэтым сэнсе не ёсць паўнавартаснымі прадстаўнікамі народу, паўнавартаснымі парламентарыямі. І таксама яны не ёсць палітычнай партыяй. Мы, каб зняць непаразуменне, папрасілі ў прадстаўнікоў "Рэспублікі", гэта Парфяновіч, Скрабец, Пашкевіч і Фралоў, сказаць нам, колькі ж іх рэальна ёсць у гэтай "Рэспубліцы". Бо называюць то 11, то 7, а мы бачым толькі чатырох. І адказаць, якая ў іх ідэйна-палітычная платформа. Вось зараз мы чакаем адказу.

**Ужо стала папулярнай гэтая лічба "пяць". Пры умове пагаднення з "Рэспублікай" гэта будзе ўжо "шэсць", ці "пяць з плюсам"?**

На сёння ёсць сітуацыя "пяці з плюсам". Бо ўжо пагадзіліся працаваць з "пяцёркай" няўрадавыя арганізацыі. Яны гатовыя будуць супрацоўнічаць у правядзенні мясцовых сацыяльных кампаніяў, навучання, назірання і г.д. Будуць штомесячныя сустрэчы і з моладзевымі арганізацыямі, будуць у нас сустрэчы і, хутчэй за ўсё, пагадненне з сапраўднымі, а не "ручнымі" прафсаюзамі, з буйнымі незалежнымі СМІ.

Гэта і ёсць той "плюс", які дае рэальныя магчымасці гаварыць, што ўся грамадзянская супольнасць разам нешта робіць дзеля будучыні Беларусі. Пры гэтым палітычныя партыі займаюцца палітычнай дзейнасцю, грамадскія – грамадскай, але ўсе – дзеля адной мэты.

(заканчэнне на с. 5)

АДНЫМ РАДКОМ

## МОЛАДЗЬ ВЫВУЧАЕ НАШЫ КАРАНІ

Сёлетні жнівень актывісты 3 моладзевых НДА Берасцейшчыны правялі, шпацыруючы па вёсках у пошуках мясцовага фальклору: паданняў, казак і песень.

24 экспедыцыі (па 8 на кожную арганізацыю) былі праведзены ў рамках супольнага праекта "Нашы карані", рэалізаванага моладзевымі ініцыятывамі "Кажан" (Лунінецкі р-н), "Рух" (Пінск), а таксама БАМГА "Сузор'е" (Берасце). Сабранага фальклорнага матэрыяла хапіла на цэлы зборнік, які зараз рыхтуецца да друку.

З шэрагу падобных праектаў "Нашы карані" выдзяляюцца шэрагам адметнасцяў. Адметнасць № 1: удзел у яго рэалізацыі не толькі сябраў моладзевых НДА, але і простай моладзі, незаангажаванай у грамадскую дзейнасць, якая запрашалася ў вандроўкі праз абвесткі ў СМІ. А паколькі арганізатары аплочвалі выдаткі на праезд і харчаванне, ахвотных было больш чым трэба. Адметнасць № 2: маршруты распрацоўваліся сумесна са спецыялістамі Упраўлення культуры Берасцейскага аблвыканкама, што ёсць добрым прыкладам рэальнага і ўзаемакарыснага супрацоўніцтва паміж уладамі і НДА. Адметнасць № 3: па-за зборам фальклору ўдзельнікі экспедыцыяў ставілі яшчэ адну мэту – знаёмства мясцовай моладзі з дзейнасцю моладзевых НДА. Маладыя вяскоўцы атрымалі буклеты, перыядычныя выданні, іншыя інфармацыйныя матэрыялы пра дзейнасць НДА.

Па словах Віталя Каратыша, каардынатара праекта па Лунінецкім і Столінскім р-нах, ёсць вялікая праблема з тым, што сучасная моладзь у сваёй масе пасіўна ставіцца да грамадскай дзейнасці, для яе патрэбна нейкая матэрыяльная зацікаўленасць.

– Для таго каб зрабіць што-небудзь не за грошы, а проста з добрых намераў, знойдзецца зараз не шмат людзей, – кажа Віталь. – Хаця яны ёсць. І гэта усцешвае. І ў Столінскім, і ў Лунінецкім раёнах мы знайшлі актыўных маладых людзей, якіх вельмі зацікавіла тое, чым мы займаемся.

**Dzedzich week-news**

## У БАРАНАВІЧАХ СТАЛА ЧЫСЦЕЙ

Беларуская экалагічная НДА правялі 19-21 верасня кампанію "Ачысцім Зямлю" (Clean Up The World).

Гэта кампанія праходзіць у 3-я выходныя верасня ў 140 краінах свету, у ёй удзельнічаюць дзесяткі мільёнаў людзей. Экалагічныя НДА Беларусі бяруць удзел у гэтай кампаніі ў 2-гі раз: у мінулым годзе да акцыі далучылася 11 НДА, у гэтым – ужо 20.

Па словах беларускіх каардынатараў кампаніі, грамадскай арганізацыі "Неруш" (Баранавічы), чалавек, дзе б ён не знаходзіўся на Зямлі, уплывае на ўсю планету. Таму важна, каб ва усім свеце праходзілі акцыі, якія б змяншалі націск на акаляючае прыроднае асяроддзе і садзейнічалі яго аднаўленню.

Актывісты экалагічных НДА з розных гарадоў Беларусі праводзілі ў гэтыя дні мерапрыемствы па добраўпарадкаванню тэрыторыяў, ачыстцы лясных масіваў і паркаў, рэк і азёр.

Што да Баранавічаў, то пунктам прыцягнення ўвагі маладых эколагаў з ЭКГА "Неруш" стала возера Свяцілаўскае, што месціцца ў самім горадзе. Пры дапамозе баранавіцкай спецаўтабазы, якая выдзяліла грузавік ГАЗ-53, з возера было вывезена каля 3 тон смецця.

**Dzedzich week-news**

# МОРА АСТЫВАЕ – СТРАСЦІ НАКАЛЯЮЦЦА

ПА ЗАКАНЧЭННІ ЛЕТНЯГА СЕЗОНА АДПАЧЫНКАЎ У БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА АБАРОНЫ ПРАВОЎ СПАЖЫЎЦОЎ ПАЧАЛІ ПАСТУПАЦЬ ЗВАРОТЫ ГРАМАДЗЯН, НЕЗАДАВОЛЕНЫХ ЯКАСЦЮ ПАСЛУГАЎ ТУРЫСТЫЧНЫХ ФІРМ.

Сярод найбольш распаўсюджаных скаргаў – неадпаведнасць гатэля абумоўленаму пры продажы тура ўзроўню. Здавалася б, якая дробязь. Сонца, мора, чыстыя пляжы – аб чым яшчэ думаць на курорце? Аднак, пагадзіцеся, калі замест гатэля ў кветках, што паказалі вам на фота ў беларускім офісе, вас прывозяць у брудны матэль – тут ужо хочаш не хочаш прыйдзецца расплюшчыць вочы... Спачатку ад здзіўлення, а пасля і ад крайняга абурэння. Замену раўнавартасным гатэлем яшчэ можна дараваць (такая магчымасць абумоліваецца ў дамове). Але ж бываюць і зусім недапушчальныя выпадкі. Аднойчы па дапамогу да юрыстаў БТАПС звярнуліся грамадзяне, якіх прывезлі ў Турцыю і пасялілі не толькі ў іншым гатэлі, але і ў іншым населеным пункце. Ды яшчэ побач з нейкім судаходным каналам. "Пачалі разбірацца: ані ў дамове, ані нават у турыстычным ваўчары дакладнага месца, дзе павінен пражываць турыст, не пазначана, – расказвае кіраўнік юрыдычнай службы БТАПС Тамара Бельская. – Напісана: "Анталія". Але ж гэта цэлы рэгіён...".

Што тут скажаш? Будзьце пільнымі, спадары турысты, і падпісвайце не вусныя абяцанкі, а тое, што напісана ў дамове. Сачыце, каб у ёй абавязкова былі абумоўлены месца і ўмовы пражывання ў іншай краіне, дадзены поўны пералік паслугаў, якія будуць прадстаўляцца і, канешне ж, указаны кошт тура. Дарэчы, пры жаданні дамову можна нават карэктаваць. Таму як усё часцей турфірмы выкарыстоўваюць не канкрэтныя, а тыпавыя дамовы, рэкамендаваныя Міністэрствам спорта і турызма. Перадрукоўваюць слова ў слова, без аніякай адаптацыі да прапанаваных тураў, і – трымай, дзядзька, падпісвай. А ў іх – толькі агульныя фразы ды пералік пунктаў, якія дакладна агаворваюць моманты, калі грошы назад не вяртаюцца. Што ж тычыцца адваротнага боку медаля – напрыклад, паломкі аўтобуса за мяжой, на рамонт якога часам губляецца некалькі сутак з аплочанага адпачынку, ці доўгага прастою на мытні, то часцей за ўсё гэта спісваецца на "непрадбачаныя абставіны"... Форс-мажор, так бы мовіць. І многія людзі пагаджаюцца. Маўляў, ну ці мала што. Не хочацца ж у адпачынку псаваць сабе настрой. У выніку, прызвычаіўшыся да беспакаранасці, прадстаўнікі некаторых турфірм дайшлі да таго, што, нават апынуўшыся ў судзе, робяць выгляд нявінных авечак.

Адна з такіх справаў была звязана з Балгарыяй. Спажыўцам прадалі тур з пражываннем у гатэлі, які, як было ўказана ў дамове, знаходзіўся на гары ў 300 метрах ад пляжа. Прыгажосць неверагодная! Як было не купіцца? А што ж аказалася на самой справе? Да мора – 5 кіламетраў горнага серпанціна... Аднак, выступаючы перад судом, прадстаўнік турфірмы, балгарын, сказаў: "Я з вышыні гляджу на мора – не больш за 300 метраў"... Рашэнне суда: вяртанне поўнага кошту тура за неадпаведнасць умоваў пражывання і выплата кліентам маральнай кампенсацыі. Добры ўрок на будучыню.

Так што, шаноўныя турысты, не саромцеся звяртацца ў праваабарончыя арганізацыі для адстойвання сваіх правоў.

**Беларускія навіны (www.naviny.by)**



Альтэрнатыва замежным турам – адпачынак у роднай Беларусі. Пагадзіцеся, нашы краявіды не менш прыгожыя. Фота: ByMedia.net

# ПА ДАРОЗЕ, У ГРАМАДСКІМ ТРАНСПАРЦЕ

"КУДА ПРЕШЬ?! УБЕРИ СУМКУ! ТЫ МНЕ, МОЖЕТ, ЕЩЁ НА ГОЛОВУ СЯДЕШЬ! ДАЙ ПРОЙТИ, КОРОВА!" НАЎРАД ЦІ ГЭТЫЯ СЛОВЫ МОГУЦЬ ЗДЗІВІЦЬ ТАГО, ХТО КОЖНЫ ДЗЕНЬ У ГАДЗІНУ ПІК КАРЫСТАЕЦЦА ГРАМАДСКІМ ТРАСПАРТАМ. МНОГІЯ З НАС ДАЎНО ЎЖО ПЕРАСТАЛІ ЗВЯРТАЦЬ НА ІХ УВАГУ, А НЕХТА ЧАСАМ І САМ КАРЫСТАЕЦЦА ІМІ ДЛЯ "АДСТОЙВАННЯ СВАІХ ПРАВОЎ І ТЛУМАЧЭННЯ СВАІХ ПАЗЫЦЫЯЎ".

Нарэшце ўбіўся. Ну, хоць зноў не прыйдзецца нагамі топаць праз палову гораду. Спрабую павярнуцца і стаць крыху зручней. Але мяне адразу ж ставяць на месца, ды яшчэ такімі словамі, што калі апусціць ненарматыўныя, дык, здаецца, нічога і не сказалі. Праз адзін прыпынак пачынаю разумець, што, у лепшым выпадку, пасля гэтай паездкі застануся інвалідам. Жанчына нясціплых памераў пачынае прабірацца да выхаду, нібы бульдозер, распіхваючы пасажыраў. Між іншым, калі б яна спытала, можа б высветлілася, што тыя, каго яна "расплюшчыла" па дарозе, таксама збіраліся выходзіць.

Божачкі, толькі не гэта. На прыпынку літаральна прыняла нізкі старт група школьнікаў з аграмаднымі заплечнікамі. А так хацелася мець дзяцей... У такія моманты думаецца: няўжо бацькам так складана навучыць сваіх дзетак здымаць заплечнікі перад уваходам у аўтобус.

Наступны прыпынак. Ледзь жывая бабулька спрабуе залезці ў аўтобус. Ну няўжо на лецішча трэба ехаць ў 7.30, а вяртацца ў 17.00, як раз у той час, калі большая частка насельніцтва гораду едзе на працу ці вяртаецца дадому? Няўжо ж ейная морква засохне, калі яна паедзе праз гадзіну ў пустым аўтобусе?

Раптам нейкая цётка бальзакаўскага ўзросту, седзячы на паўтары крэслы, пачынае вучыць хлопчыка побач: "Мальчик, ну-ка, уступи вон той бабушке место. Если тебя родители не научили, то я сейчас научу элементарным правилам культуры!!!" Хочацца нагадаць ёй, што добрыя справы трэба рабіць сваімі рукамі і што яна сама не карыстаецца "элементарными правилами культуры", паказваючы іх выдатнае веданне. Дарэчы, калі хлопчык вылез з аўтобуса і пайшоў, кульгаючы, усе зразумелі, што стаяць яму у той момант было, можа, і не лягчэй за тую бабульку. Але гэта, як кажуць, дэталі.

Едзем далей. На наступным прыпынку ўваліліся кампанія паддатых мужчын. Бедная кандуктарка... Яна проста выконвала сваю працу. І наўрад ці заслужыла тое, што пачула ў свой адрас... Але сёння ім не пашанцавала. Міліцыянт, які выпадкова ехаў у гэтым жа аўтобусе, не толькі паставіў іх на месца, але і паклаў на зямлю на наступным прыпынку і, мне думаецца, знайшоў куды ім падзець энэргію на наступныя сутак пятнаццаць.

Ну вось і мая чарга выходзіць. Толькі паспеў пра гэта падумаць, як вынесены натоўпам, ужо стаяў на вуліцы. Так, добра, што гэта мой прыпынак...

**Аляксей КАВАЛЁЎ**



## ДАРЭЧЫ

"Ваентур" прапаноўвае: унікальныя туры па Еўропе на Т-72!

Варшава, Берлін, Прага! Вы плаціце толькі за салярку. Выезд – па меры камплектавання батальёнаў.

***

Калі да вас адразу даходзіць сэнс паказкі: "Macdonalds – сетка бясплатных туалетаў па ўсяму свету", – значыць вы з Расеі.

***

– Што агульнага паміж мужчынай і аўтобусам?
– Падыходзіць заўжды не той, якога чакаеш.

***

Апошнія даследаванні ў галіне спартыўнага веславання ўстанавілі, што ў дзвухмеснай байдарцы звычайна знаходзяцца дзве загадкавыя істоты, якія называюцца Грэбібля і Грэбубля...

***

Калі ў жанчыны кальцо на правай руцэ, гэта значыць, што яна замужам.

Калі на левай руцэ, гэта нічога не значыць.

А калі на правай і на левай, гэта значыць, што яна замужам, але гэта нічога не значыць.

# ПРАЎДА ПРА БЕЛАРУСЬ




ШМАТ ХТО ЗАРАЗ МАЕ КАМПУТАР. ШМАТ ХТО МАЕ ВЫХАД У ІНТЭРНЭТ. І ТАКСАМА ШМАТ ХТО ДАСЫЛАЕ НАМ У РЭДАКЦЫЮ ЛІСТЫ З ПРОСЬБАЙ ПАДКАЗАЦЬ, ДЗЕ МОЖНА ЗНАЙСЦІ ПРАЎДЗІВУЮ, СВЕЖУЮ І АБ'ЕКТЫЎНУЮ ІНФАРМАЦЫЮ ПРА СУЧАСНУЮ СІТУАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ. АДКАЗВАЕМ – У ІНТЭРНЭЦЕ.

Мы не будзем прэтэндаваць на канчатковаць і вычарпальнасць нашых парадаў тым, хто хоча ведаць праўду. Зрэшты, гэта справа густу, якія сайты глядзець. Скажам толькі пра найбольш папулярныя ў нашай арганізацыі крыніцы атрымання навін з інтэрнэта.

Пачнем з Берасця. Не рэгулярна абнаўляецца, але ж часамі выдае цікавыя навіны розных інфармацыйных агенцтваў сайт BrestOnline: **http://brestonline.com/index-by.shtml**. Ён змяшчае таксама факты з гісторыі горада, цудоўную фотагалерэю берасцейскіх краявідаў і шмат іншай інфармацыі – ад прагноза надвор'я, мапы Берасця, да раскладу руху тралейбусаў. Ёсць і ангельская версія сайту – яна будзе карысна тым, хто вывучае замежную мову.




Неблага працуе і сайт Берасцейскага аблвыканкама: **http://www.brest-region.by**. Ён павінен зацікавіць тых, хто займаецца бізнэсам, дробным прадпрымальніцтвам (інфармацыя аб рэгістрацыі прадпрыемстваў, ліцэнзаванні і да т.п.), тым, хто шукае працу. Ёсць там і навіны, але, як вы разумееце, яны




робяцца ў лепшых традыцыях савецкіх часоў: "На нашых палетках цудоўны ўраджай, і ўвогуле ўсё добра, прыгожая маркіза!" Самым цікавым, на наш погляд з'яўляецца магчымасць задаць пытанне любому чыноўніку выканкама. І, як ні дзіўна, атрымаць адказ.

БЕЛАРУСКАЯ ПАЛІЧКА

Што да агульнабеларускіх навінаў, то тут бясспрэчным лідэрам з'яўляецца сайт грамадскай ініцыятывы "Хартыя'97": **http://www.charter97.org**. Абнаўляецца 2 разы на дзень, заўсёды самыя свежыя, актуальныя і непаўторныя навіны пра ўсё, што дзеецца ў грамадска-палітычнай і эканамічнай сферах нашага жыцця. Прычым публікуюцца не толькі матэрыялы ўласных карэспандэнтаў, але і артыкулы з іншых крыніц: расейскіх інтэрнэт-рэсурсаў і газет, пераклады нямецкай і амерыканскай прэсы, датычныя сітуацыі ў Беларусі. Ёсць магчымасць падпісацца на рассылку навін, якія будуць прыходзіць на вашу электронную скрынку.




Другое месца па папулярнасці трывала займае сайт "Радыё Свабода": **http://svaboda.org**. Пагадзіцеся, у наш час значна прасцей чытаць навіны ў інтэрнэце, чым шукаць недзе ў кладоўцы дзедаўскі кароткахвалевы прыёмнік, каб праз трэск і шум слухаць голас Свабоды. Хаця прыёмнік ні выкідайце. Так, на ўсялякі выпадак. На Свабодзе вы знойдзеце навіны пра Беларусь, пра найбольш значныя падзеі ў свеце. Карысныя парады для тых, хто хоча размаўляць па-беларуску, інтэрв'ю з вядомымі беларускімі літаратарамі і яшчэ шмат чаго. Як і ў "Хартыі", ёсць магчымасць падпісацца на рассылку.




Зусім нядаўна ў нашых сяброў стала папулярнай інтэрнэт-газета агенцтва Белапан: **http://www.naviny.by**. Тут увогуле бездань навін пра ўсё-ўсё, і не толькі ў Беларусі. Культура, спорт, мода, музыка і г.д. Ну, і, безумоўна, палітыка, эканоміка, грамадства – толькі факты.

Напрыканцы хочам параіць інтэрнэт-рэсурсы, дзе вы знойдзеце інфармацыю пра Беларусь на ўсе выпадкі жыцця:

– Акавіта (**http://www.akavita.by**) – каталог беларускіх сайтаў, выдатная пошукавая сістэма, рэйтынгі наведваемасці.

– Беларуская палічка (**http://www.knihi.com**) – электронная бібліятэка твораў беларускіх аўтараў і пераклады на беларускую мову выбітных літаратараў замежжа (мастацкая і навуковая літаратура, публіцыстыка, вершы). Новыя творы з'яўляюцца амаль штодзённа. Ёсць некалькі найбольш папулярных беларускіх мелодый для мабільных тэлефонаў.

– Сайт Партыі БНФ (**http://pbnf.org**) – праграма і статут, платформа партыі, гісторыя ўтварэння, сімволіка, кантакты мясцовых арганізацый партыі. Ёсць і навіны, і магчымасць падпісацца на рассылку.

Жадаем вам устойлівай і хуткай сувязі!

**P.S.** Пры патрэбе знайсці ў інтэрнэце інфармацыю пра гісторыю, культуру, эканоміку Беларусі, звяртайцеся да нас. Дапаможам. Ну, а калі вы адкапаеце нейкія іншыя цікавыя сайты пра Беларусь, падзяліцеся сваім адкрыццём з намі, а мы раскажам усім.

***Дзмітрый ЛЯШОЎ***

## ВІНЦУК ВЯЧОРКА: «МЫ ВЫБІРАЕМ БАРАЦЬБУ ЗА СВАБОДУ БЕЛАРУСІ!»

(Заканчэнне. Пачатак на с. 2)

**Асабістае пытанне. Ці не замінае Вам палітычная дзейнасць ў жыцці? Ці хапае часу вынесці смецце з хаты, зрабіць прыборку? Як жонка ставіцца да Вашай дзейнасці?**

Ну, вынесці смецце! На гэта ёсць сын, які павінен займацца хатнімі справамі адпаведна свайму ўзросту. Яму 15 гадоў. Але цяжэйшую працу, скажам, вытрэсці дываны, мы выконваем разам. Канешне, вельмі мала часу для таго, каб займацца дзецьмі. Маёй малодшай дачцэ 5 гадоў, і пры любой нагодзе ўвесь вольны час я намагаюся праводзіць з ёй. Але, дзякуй богу, усе ў маёй сям'і – мае аднадумцы. Мы гаворым на адной мове ў прамым і пераносным сэнсе.

**Часам здараецца, што такога аднадумства ў маладой пары няма. Скажам, яна ўвесь час гаворыць: "Кінь дурное. Лепш бы грошы йшоў зарабляць". Як Вы лічыце, што у такім выпадку трэба рабіць? Шукаць іншую дзяўчыну, ці, як спявае Зміцер Бартосік, займацца перавыхаваннем: "Калі я спаць кладуся з "дзевачкай прастой", а прачынаюся са шчырай беларускай"?**

У прынцыпе тактыка Бартосіка напэўна больш правільная, але калі пасля некалькіх захадаў, якія Бартосік рэкамендуе, дзяўчына не становіцца Вашай аднадумцай, то ў Вас з ёю будуць увесь час узнікаць такія праблемы. Назіраючы лёсы беларускіх сем'яў, якія ствараліся на маіх вачах, я пераканаўся, што, на жаль, калі няма ідэйнага адзінства, рана ці позна гэта адбіваецца на сямейным шчасці.

**Ведаю, што Берасце – Ваш родны горад, і сваё дзяцінства Вы правялі ў ім. З чым звязаны Вашы самыя яскравыя дзіцячыя ўспаміны аб гэтым горадзе?**

Сапраўды, да 14 гадоў я вучыўся ў 1-ай школе, якая зараз стала 1-ай гімназіяй, лазіў па яшчэ не сапсаванай савецкімі манументальнымі ізыскамі Берасцейскай крэпасці, ездзіў на Лясную. Але з самага ранняга дзяцінства, і ўвогуле мае самыя першыя ўспаміны ў жыцці – гэта чыстая і празрыстая мухавецкая вада, праз якую відаць было сонечныя блікі на жоўценькім пяску. Вельмі шкада, што сённяшні Мухавец не часта дае нам магчымасць убачыць такую прыгажосць.

**Як малады берасцеец можа стаць сябрам Партыі БНФ?**

На жаль, Берасцейская арганізацыя Партыі БНФ пакуль не мае свайго офісу. Таму тым, хто жадае стаць сябрам партыі, раю тэлефанаваць па тэл.: 25-70-55 (Ніна Юльянаўна), альбо (029) 641-20-98 (Уладзімір). Ніякіх выпрабавальных тэрмінаў у нас няма. Трэба толькі шчырае жаданне дапамагчы зрабіць наш край лепшым.

**Што б Вы хацелі пажадаць новаму пакаленню берасцейцаў?**

Берасце – памежны горад. У пэўным сэнсе – гэта горад на мяжы выбару. Ва ўмовах існавання дэмакратыі, здаровай эканомікі, адкрытай мяжы, якую цяпер, на жаль, загарадзілі візамі, берасцейцы мелі б унікальныя магчымасці здабываць дабрабыт, падвышаць адукацыйны ўзровень і пры гэтым заставацца самімі сабой.

Мяне трывожыць той настрой, які пануе сярод цяперашняй, асабліва сярод адукаванай амбіцыйнай моладзі: з'ехаць кудысьці. Вось жа, мае дарагія берасцейцы! Ні ў якім разе нікуды не з'язджайце! Мы з вамі разам павінны зрабіць яшчэ пэўны кавалак работы, каб літаральна праз некалькі гадоў у сябе на Радзіме мы маглі годна жыць!

**Гутарыў Б. ДЭПЕША**

## ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР

### 10 КАСТРЫЧНІКА

10 кастрычніка 1939г. Савецкі Саюз перадаў **Вільню** Літве. Перад гэтым меркавалася зрабіць яе сталіцай Заходняй Беларусі. Па горадзе былі развешаны плакаты па-беларуску пра тое, што Вільня стала савецкай навечна, пачала выдавацца газета "Віленская праўда". Але "вечнасць" доўжылася каля трох тыдняў – 10 кастрычніка была падпісаная дамова пра ўзаемную дапамогу паміж СССР і Літвою. Паводле гэтай дамовы Вільня і Віленшчына адыходзілі да Літвы, а СССР за гэта атрымаў магчымасць размяшчаць на тэрыторыі Літвы (у Велейцы, Алітусе, Прэнай ды іншых месцах) свае вайсковыя базы, а таксама карыстацца ўсімі аэрадромамі для сваёй авіяцыі. Такім чынам, доўгая мара літоўцаў пра Вільню была спраўджаная. Пройдзе яшчэ крыху часу, і СССР праглыне Літву,ператварыўшы яе ў адну з савецкіх рэспублік.

### 12 КАСТРЫЧНІКА

12 кастрычніка 1925 года ў Берліне пачалася II **Усебеларуская канферэнцыя**. Тыя беларускія палітыкі, якія вырашылі, што ў савецкім Менску можна па-сапраўднаму рэалізаваць нацыянальныя ідэалы беларускага адраджэння, пераконвалі эмігрантаў, каб тыя з гэтым пагадзіліся і не вялі змагання з бальшавікамі. На канферэнцыі нібыта паўнамоцтвы ўраду БНР былі перададзеныя ўраду БССР. Праўда, старшыня Рады БНР Пётр Крэчэўскі і ягоны намеснік Васіль Захарка гэтага рашэння не прызналі. Як паказала гісторыя, слушна зрабілі. Бо нацыянальнае адраджэнне ў Менску хутка змянілася жорсткай русіфікацыяй і патанула ў крывавай хвалі сталінскіх рэпрэсіяў. Тым часам урад БНР працягваў існаваць на эміграцыі, перахоўваючы ў чысціні нацыянальную беларускую ідэю. Сёння гэтую справу працягвае Рада БНР на чале з Івонкай Сурвілай.

### 13 КАСТРЫЧНІКА



13 кастрычніка 1888г. у засценку Пунькі, што на Дзісеншчыне, нарадзіўся геніяльны беларускі мастак **Язэп Драздовіч**. Вучыўся ён у Вільні, у мастацкай школе. Язэп Драздовіч – чалавек незвычайны, з неардынарнымі здольнасцямі. Ён быў шматгранным творцам – жывапісцам, графікам, скульптарам, разьбяром па дрэве, пісьменнікам, паэтам, этнографам, фалькларыстам, астраномам.

Пасля I Сусветнай вайны быў мастацкім рэдактарам першага ў савецкай Беларусі лемантара, у Германавічах арганізаваў асветнае таварыства "Заранка", а ў вёсцы Сталіца – школу з навучаннем на роднай мове па сваёй методыцы. Драздовіч пешшу абышоў усю Заходнюю Беларусь, замалёўваючы легендарныя курганы і рэшткі велічных замкаў, яму належыць гістарычны раман "Гарадольская пушча". Цікава, што Язэп Драздовіч быў пачынальнікам касмічнай тэмы ў беларускім выяўленчым мастацтве. Праз усё жыццё пранёс ён вялікую прагу да спазнання Сусвету, шчыра веруючы ў тое, што і на іншых планетах існуе жыццё. Драздовіч – аўтар кнігі "Нябесныя бегі", у якой выклаў сваю тэорыю будовы Космасу.

Арыгінальнае ўяўленне і багатая фантазія Драздовіча дазволілі яму зазірнуць у далёкі і невядомы, загадкавы і таямнічы свет, па-майстэрску выкласці сваё бачанне структуры і формы пазаземнага жыцця.

# ХТО ЗНІШЧЫЎ

## ЛІНГВАЦЫД

НІ ДЛЯ КАГО НЕ САКРЭТ, ШТО САЦЫЯЛЬНЫЯ ФУНКЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ СЕННЯ, МЯККА КАЖУЧЫ, ВЕЛЬМІ АБМЕЖАВАНЫЯ. БЕЛАРУСКАЯ МОВА, ДЗЯРЖАЎНАЯ МОВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, НЕ ДАПУСКАЕЦЦА Ў ВОЙСКА (НАВАТ ПРЫСЯГУ БЕЛАРУСКІЯ ХЛОПЦЫ ПРЫМАЮЦЬ ПА-РАСЕЙСКУ), У БЕЛАРУСКІХ КРАМАХ НЕ ЎБАЧЫШ ЦЭННІКАЎ НА МОВЕ ТЫТУЛЬНАЙ НАЦЫІ, ВА ЎСЕЙ КРАІНЕ НЯМА НІВОДНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ВЫШЭЙШАЙ НАВУЧАЛЬНАЙ УСТАНОВЫ, У БУЙНЫХ ГАРАДАХ БАЦЬКІ НЕ МОГУЦЬ ДАЦЬ СВАІМ ДЗЕЦЯМ БЕЛАРУСКУЮ АДУКАЦЫЮ, НАВАТ СЯРЭДНЮЮ, БО АМАЛЬ НЕ ЗАСТАЛОСЯ ТАМ БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ КЛАСАЎ.

Пералічаць факты дыскрымінацыі беларускай мовы, а значыць і дыскрымінацыі беларусаў у іх уласнай краіне можна бясконца, але ж усе яны добра вядомыя і беларус сустракаецца з імі ў сваім паўсядзённым жыцці на кожным кроку. Больш карысным было б даведацца як беларуская мова, адзіная дзяржаўная мова Вялікага Княства Літоўскага прыйшла ў заняпад, паказаць прычыны і асноўныя вехі гістарычнага працэса, які атрымаў назву "лінгвацыд".

Як вядома, у ВКЛ беларуская мова ўжывалася ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. На ёй размаўлялі ўсе, ад Вялікага князя да простага мужыка, яна была сродкам міжэтнічных зносін з прадстаўнікамі іншамоўных этнасаў, якія жылі ў ВКЛ – продкамі сучасных украінцаў і літоўцаў, на ёй вялося ўсё дзяржаўнае справаводства (у адрозненне, напрыклад, ад Польшчы, дзе ў той жа час дзяржаўныя паперы пісаліся не на нацыянальнай польскай мове, а на лацінскай).

І хаця пяцьсот гадоў таму нашы продкі пісалі на царкоўнаславянскі ўзор *ходити, литовский*, чыталі ды казалі яны *хадзіці, літоўскі*. Разыходжанне асвячонага традыцыяй пісьма і жывога слова нікому не шкодзіла, бо беларуская мова панавала ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, на спосаб чытання не ціснулі чужамоўныя ўплывы, а асаблівасці вымаўлення перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Дарэчы, даволі значна адрозніваецца чытанне ад напісання ў ангельскай, французскай мовах. Такое разыходжанне без рызыкі страціць самабытнасць, падпасць пад чужыя ўплывы, пацярпець у плане прэстыжнасці, як правіла, дазваляюць сабе мовы дзяржаўныя, трывала ўгрунтаваныя ў грамадскім жыцці свайго народа.

Перадумовай заняпаду беларускай мовы было паступовае (ад 2-й пал. XVI ст.) ўжыванне польскай мовы вышэйшымі коламі беларускага грамадства. На гэты працэс моцна ўплывалі цесныя палітычныя кантакты магнатаў і шляхты абедзвюх саюзных дзяржаў – ВКЛ і Польшчы. Пастаянныя кантакты адбываліся на дзяржаўным узроўні, падчас супольных вайсковых паходаў, на сустрэчах прыватнага характару.

Першым камянём, які быў закладзены ў падмурак працэсаў спачатку паланізацыі, а потым русіфікацыі, можна лічыць падпісанне Люблінскай уніі ў 1569г., калі беларуская дзяржава, аслабленая бясконцымі войнамі з Расеяй, вымушана была ўтварыць з Польскім каралеўствам адзіную дзяржаву – Рэч Паспалітую. У аб'яднанні дзвюх дзяржаў была зацікаўлена дробная шляхта ВКЛ, якая марыла аб польскіх шляхецкіх вольнасцях.

Аднак фармальна Люблінская ўнія не змяніла моўнага становішча. Як і раней, у Беларуска-Літоўскай дзяржаве адзінай дзяржаўнай мовай заставалася беларуская. На ёй пісаліся вялікакняскія прывілеі, іншыя дзяржаўныя дакументы, большая частка прыватнай карэспандэнцыі. Магнаты ведалі беларускую мову і часам карысталіся ёю. Але менавіта Люблінская ўнія паскорыла пранікненне польскай мовы на землі Беларусі і Літвы.

Моцныя пазіцыі беларускай мовы да пары забяспечваліся дзякуючы прыняццю адпаведных актаў дзяржаўна-прававога характару. Адзін з іх прыняў Варшаўскі элекцыйны сойм у 1632г.: *"У адпаведнасці з усталяваным звычаем і як гэта здаўна патрабуецца, усе акты, прывілеі, граматы і мандаты, якія датычаць ваяводстваў Літоўскага, Валынскага і Брацлаўскага, павінны складацца ў канцылярыі Я.К.Л.* (яго каралеўскай ласкі – Д.Ш.) *і выдавацца ёю на рускай* (гэта значыць тагачаснай старабеларускай – Д.Ш.) *мове. Акт, атрыманы кім-небудзь з канцылярыі на іншай мове, будзе поўнасцю несапраўдным."* Пра трывалыя пазіцыі беларускай мовы на ўсіх абсягах ВКЛ сведчыць, напрыклад, той факт, што свой вядомы ліст да расейскага цара Аляксея Міхайлавіча Багдан Хмяльніцкі і палкоўнік Залатарэнка напісалі беларускім пісьмом. Старабеларуская мова працягвала захоўвацца ў дыпламатычных зносінах Рэчы Паспалітай з Масковіяй. Гэтая ж мова ўжывалася апошняй для дыпламатычных зносінаў з шэрагам краін Заходняй Еўропы, у тым ліку і з Францыяй.



*Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына... (Я. Купала)*

# БЕЛАРУСКУЮ МОВУ?

Мацнейшы ўдар быў нанесены па пазіцыях беларускай мовы ў **1696г.** Канфедэрацыйны сойм **29 жніўня** прыняў пастанову "Юрыдычнае ўраўнаванне" ("Коэкваціо юрыум") шляхецкіх саслоўяў ВКЛ і Кароны Польскай. Сярод некалькіх пунктаў, якімі ўраўноўваліся правы шляхты Беларусі і Літвы з правамі польскай шляхты, быў і пункт наконт мовы. Там было запісана, што пісар земскі судовыя дэкрэты павінен *"...па-польску, а не па-руску* (г. зн. па-беларуску – Д.Ш.) *пісаць", "...усе ранейшыя акты, запісы, дэкрэты і сведчанні павінны захаваць сваю моц".* Гэта азначала, што, хаця беларуская мова не забаранялася, усе афіцыйныя акты на беларускай мове захоўвалі сваю моц, аднак менавіта **29 жніўня 1696г. беларуская мова страціла статус дзяржаўнай мовы.**

Трэба адзначыць, што пасля прыняцця пастановы 1696г. у многіх месцах досыць доўгі час службовае справаводства вялося на беларускай мове, бо многія не да такой ступені валодалі польскім словам, каб карыстацца ім пры складанні дакументаў. У Магілёве, напрыклад, магістрацкія кнігі да 1712г. пісаліся кірыліцай, а з пераходам на лацінку толькі зрэдку ўводзіліся польскія словы. Аднак пастанова 1696г. – найсур'ёзнейшы ўдар не толькі па палітычных і нацыянальных правах, але і па культурным развіцці беларускага народа. Адміністрацыйным уладам пасля пераходу на польскую мову куды прасцей і лягчэй было ўкараняць яе ў асвету, выдавецкую справу. Пазбаўленая статусу дзяржаўнай, забароненая для ўжывання ў многіх сферах грамадскай дзейнасці, беларуская мова вымушана была заканамерна звужаць да крайнасці свае сацыяльныя функцыі. Ужо ў пачатку XVIII ст. толькі дзенедзе на беларускай зямлі можна было знайсці школу ці друкарню, якія працавалі б на беларускай мове.

Заняпад беларускай мовы ў XVIII ст. аблегчыў царскім уладам пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння тэрыторыі Беларусі да Расейскай Імперыі правядзенне дыскрымінацыйнай палітыкі ў дачыненні да беларускай мовы і культуры. Зробім кароткую храналогію знішчэння беларускай мовы ў Расейскай Імперыі да кастрычніцкага перавароту:

**1790г.** Падданы Кацярыне II Уладыка Віктар Садкоўскі на Слуцкім епархіяльным саборы (а сабор адбываўся ў межах не Расеі, а Рэчы Паспалітай, хаця ўмяшальніцтва першай ва ўнутраныя справы другой ужо нікога не здзіўляла) пагражаў беларускім святарам: *«Я вас скореню, знішчу, што б і языка вашого проклятого літовского* (г. зн. беларускага – Д.Ш.) *і вас саміх не было; я вас у зсылкі парассылаю альбо ў салдаты пааддаю, а сваіх з-за кардону* (г. зн. з Расеі – Д.Ш.) *панаважу».* Епіскап ганіў мясцовых святароў за ўжыванне "літоўскай" (беларускай) мовы замест царкоўнаславянскай у казаннях да беларускай паствы.

**1831г.** Зачынена адзіная на той час Вышэйшая навучальная ўстанова Беларусі – Віленскі ўніверсітэт, асноўны асяродак развіцця беларускай нацыянальнай ідэі.

**1839г.** Ажыццявілася мара В.Садкоўскага: у цэрквах была ўрэшце забаронена казань на беларускай мове (была скасавана Берасцейская ўнія). Усіх уніятаў пераводзілі ў праваслаўе. Праваслаўных беларусаў лічылі рускімі, каталікоў – палякамі.

**1840г.** Указам Мікалая I забаронена ўжыванне самога тэрміна "Беларусь". Яе афіцыйная назва ад гэтага часу – Паўночна-заходні край. Мову беларусаў на афіцыйным узроўні беспадстаўна аб'явілі "дыялектам", "гаворкай" рускай мовы. Міне некаторы час і яе назавуць яшчэ больш грубым азначэннем "мужыцкая мова".

**1864г.** Выходзіць распараджэнне Міністэрства асветы Расеі, паводле якога беларускім вучням забаранялася ў сценах навучальных устаноў нават паміж сабой размаўляць на роднай мове.

**1867г.** Цалкам забаронены друк беларускамоўных кніг. Беларусы не мелі свайго друкаванага слова 25 гадоў. Асобныя кнігі выдаваліся за мяжой (Кракаў, Познань), як, напрыклад, творы Ф.Багушэвіча.

**1870г.** Міністр асветы Расеі Дз.Талстой пісаў: *"Канчатковаю мэтай асветы ўсіх іншародцаў, што пражываюць у межах нашай Айчыны, несумненна, павінна быць абрусенне* (падкрэслена мною – Д.Ш.)". А вось якіх поглядаў прытрымліваўся расейскі крытык В.Бялінскі: *"Мы маем поўнае права сказаць, што цяпер ужо не існуе маларасейская мова, а ёсць абласны маларасейскі дыялект, як ёсць беларускі (падкрэслена мною – Д.Ш.), сібірскі ды іншыя падобныя ім дыялекты".* Так ацэньваў нашу мову "рэвалюцыйны дэмакрат" "братняга" народу.

Дзякуючы рэвалюцыі 1905-07гг. нацыянальныя меншасці ў Расеі атрымалі магчымасць выпускаць літаратуру на роднай мове. Скарысталі гэтую магчымасць і беларускія адраджэнцы. З 1906г. пачала выходзіць штотыднёвая беларускамоўная газета "Наша Ніва", рэдакцыя якой па-сутнасці стварыла новую літаратурную беларускую мову. Да I Сусветнай вайны цягнуўся перыяд адноснай лібералізацыі рэжыму, у тым ліку і моўнай праблемы.

Новы віток лінгвацыду беларускай мовы прыпадае ўжо на савецкі перыяд беларускай гісторыі.

**(Працяг – у наступным нумары)**

**Дзмітрый ШЫМАНСКІ**

## АБ'ЯВЫ



## ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР

### 15 КАСТРЫЧНІКА

Пад гэтым днём у нашым календары пазначаныя дзве смутныя даты. Абедзве звязаныя паміж сабой тым, што з'яўляюцца днямі смерці выдатных дзеячоў паўстання 1794 г.

15 кастрычніка1817г. на чужыне, у Швейцарыі, памёр **Тадэвуш Касцюшка.** Нарадзіўся ён на Берасцейшчыне ў сям'і беларускага шляхціча. У 1769г. скончыў Варшаўскі кадэцкі корпус. Затым пяць гадоў вучыўся ў Парыжскай ваеннай акадэміі.



У1776г. ён паехаў у Паўночную Амерыку, дзе пачалася вайна за незалежнасць. Тут ён атрымаў званне генерала і быў узнагароджаны самым высокім ордэнам Злучаных Штатаў – ордэнам Цынцынаці.

Вярнуўшыся на радзіму, Касцюшка ачоліў паўстанне супраць расейскіх ды прускіх акупантаў, што выбухнула ў сакавіку 1794г. Напачатку яно мела некаторы поспех, але пасля таго, як Расея і Прусія накіравалі супраць паўстанцаў вялікую колькасць войскаў, паўстанне было задушана. Касцюшка, цяжка паранены ў бітве каля Мацяёвіцаў, быў узяты ў палон і зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці ў Пецярбурзе.

Пасля смерці царыцы Кацярыны II яе сын Павел I вызваліў Касцюшку і дазволіў яму выехаць за мяжу, дзе той і памёр 15 кастрычніка 1817г.

У гэты ж дзень у 1824г., таксама на чужыне, памёр паплечнік Касцюшкі **Рамуальд Гедройц**, адзін з самых вядомых камандзіраў паўстання 1794г. Ён нарадзіўся ў 1750г. на Браслаўшчыне. Ад 19 гадоў стаў вайсковым дзеячом, браў чынны ўдзел у баявых дзеяннях Барскай канфедэрацыі. З 1778г. Рамуальд Гедройц быў намеснікам камендант брыгады гусараў Вялікага Княства, абіраўся паслом на Гарадзенскі сойм 1784г. Пасля задушэння паўстання на тэрыторыі Беларусі Гедройц адышоў у Польшчу са сваім пяцітысячным атрадам, дзе прыняў удзел у абароне Варшавы ад расейскіх войскаў Суворава. Калі і польская сталіца была захопленая, паранены Рамуальд Гедройц змушаны быў эміграваць. Там ён і памёр, больш не ўбачыўшы Бацькаўшчыны, за якую больш як 20 гадоў праліваў кроў.

### 17 КАСТРЫЧНІКА

17 кастрычніка 1588г. ўведзены ў дзеянне **Статут Вялікага Княства Літоўскага.** Гісторыкі называюць яго першай еўрапейскай канстытуцыяй. Гэты кодэкс права на працягу 250 гадоў быў дзейным законам на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны і складаў аснову ўсёй прававой сістэмы ВКЛ. Гэта значыць, сапраўды быў асноўным законам, канстытуцыяй краіны. Складаецца Статут з 488 артыкулаў, якія змяшчаюцца ў 14 раздзелах. Ён усталёўваў адказнасць шляхты за забойства паспалітага чалавека, абвяшчаў ідэю верацярпімасці, забараняў перадачу вольнага чалавека за даўгі або злачынствы ў няволю. Надрукаваны Статут быў на старабеларускай мове ў віленскай друкарні Мамонічаў, а прадмову да яго напісаў сам канцлер ВКЛ Леў Сапега. Ён таксама з'яўляўся і адным са складальнікаў Статута.

## ЗАСПЯВАЕМ!

«ДЗЕДЗІЧ» ПРАЦЯГВАЕ ПУБЛІКАВАЦЬ ТЭКСТЫ НАЙБОЛЬШ ПАПУЛЯРНЫХ БЕЛАРУСКІХ ПЕСЕНЬ ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ АДПАЧЫВАЦЬ ПАД ЗВОН ГІТАРЫ. А ТЫМ, ХТО ЖАДАЕ НАБЫЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МУЗЫКУ, РАІМ ТЭЛЕФАНАВАЦЬ У РЭДАКЦЫЮ.

# Я НАРАДЗІЎСЯ ТУТ

(Акорды падабраны Кацяй Жалабковіч)

Dm Am
Я нарадзіўся тут
Gm Dm
У краіне пад шэрым небам.
Am
Я нарадзіўся тут
Gm Dm
У краіне бульбы, калгасаў і чорнага хлеба.

Я нарадзіўся тут
У краіне прапіскі і скручаных кранаў.
Я нарадзіўся тут
У краіне сотняў парушаных храмаў.

Прыпеў:
Am
Радзільня, дзіцячы садок,
Gm
Школа ды інстытут.
Am Gm
Я нарадзіўся тут,
Dm Am Gm
О-о-о-о-о... І я буду жыць тут.

Я нарадзіўся тут
Дзе білет у адзін бок
Гэта шанец для тых, хто нязгодны.
Я нарадзіўся тут
Я тут жыву, і мне тут яшчэ не ўсё роўна.

Я нарадзіўся тут,
Таму гэта - мая краіна.
Я нарадзіўся тут
На пяць стагоддзяў пасля Францішка Скарыны.

Прыпеў.

Я нарадзіўся тут,
Дзе нараджацца было небяспечна.
Я нарадзіўся тут,
Дзе ўсе да ўсяго прывыкаюць,
Але гэта мне недарэчна.

Я ведаю, што
Паслязаўтра на нашых калгасных палетках
Замест пустазелля й палыну
Ўзыйдуць белыя і чырвоныя кветкі.

# "РЭВАЛЮЦЫЯ" АДБУДЗЕЦЦА 7 ЛІСТАПАДА

"ПЕРАЗАГРУЗІ РЭВАЛЮЦЫЮ!". ПАД ТАКІМ ДЭВІЗАМ МОГУЦЬ ПРАВЕСЦІ 7 ЛІСТАПАДА ПРЫХІЛЬНІКІ "МАТРЫЦЫ". МЕНАВІТА НА ГЭТЫ ДЗЕНЬ, ПРАЗ ДВА ДНІ ПАСЛЯ СУСВЕТНАЙ ПРЭМ'ЕРЫ, У МЕНСКУ ЗАПЛАНАВАНЫ ПАКАЗ ТРЭЦЯЙ ЧАСТКІ ФІЛЬМУ "МАТРЫЦА. РЭВАЛЮЦЫЯ".

Сусветная ж прэм'ера "Рэвалюцыі" па рашэнню кінакампаніяў Warner Bros. Pictures і Village Roadshow Pictures прызначана на адзін і той жа час у буйнейшых гарадах свету. Гэтая знамянальная падзея адбудзецца 5 лістапада.

Беспрэцэдэнтная акцыя зробіць карціну даступнай фанатам у 6 раніцы ў Лос-Анжэлесы, ў 9 раніцы жыхары Нью-Ёрка таксама сядуць у крэслы гледачоў. На момант прэм'еры ў Лондане будзе 2 гадзіны дня, у Маскве – 5 гадзін вечара, а фанатам у Токіё, каб атрымаць асалоду ад кампутарных спецэфектаў, прыйдзецца чакаць да 23:00.

Яшчэ больш чым у 50 краінах свету баявік з'явіцца на экранах у адпаведны час.

Што да нашага горада, то ў Берасці прэм'ера трэцяй часткі "Матрыцы" пройдзе, па папярэдніх звестках, 20 лістапада. Прынамсі гэтая дата пазначана на сайце кінатэатра "Большой" – **www.bolshoi.by.ru.** Там жа мы знайшлі некаторыя цікавыя факты пра "Матрыцу":

– За свой удзел у дзвух сіквелах "Матрыцы" Кіану Рыўз атрымае $30 млн даляраў ці 15% ад збораў абедзьвюх серый (што будзе больш). У інтэрв'ю Empire Online Кіану заявіў: "Калі мне прапанавалі здымацца ў сіквелах Матрыцы, я пагадзіўся без ваганняў. Калі ж я ўбачыў сцэнар другой і трэцяй частак, я зразумеў, наколькі грандыёзным будзе працяг".

– Здымкі фільмаў праходзілі ў Аўстраліі. Аднойчы, па дамоўленасці з мясцовымі ўладамі на 4 гадзіны быў закрыты ўвесь рух у Сіднэе. Гэта было зроблена для забеспячэння бяспекі пры здымках сцэны пралёта верталёта над горадам. Верталёт павінен праляцець над Сіднэем на надзвычай нізкай вышыні, таму было прынятае рашэнне не толькі перакрыць рух на вуліцах горада, але і эвакуіраваць людзей з некаторых хмарачосаў.

– Глорыя Фостэр, актрыса, што выконвала ролю Прарыцацельніцы ў першай "Матрыцы", памерла ад дыябету 29 верасня 2001г. Да гэтага часу былі знятыя амаль усе сцэны з яе удзелам для "Матрыцы-2", аднак для "Матрыцы-3" матэрыял зняты не быў.

Ну, а ўсё, што з гэтага атрымалася, мы з вамі зможам убачыць на ўласныя вочы на вялікім экране. Нажаль, не раней за 20 лістапада.

**Беларускія навіны (www.naviny.by)**

# МЕЛОДЫІ ДЛЯ МАБІЛЬНІКАЎ

УСЕАГУЛЬНАЯ МАБІЛІЗАЦЫЯ БЕРАСЦЕЙСКАГА СТУДЭНЦТВА НАБІРАЕ АБАРОТЫ. ЯК ВЯДОМА, КОЖНЫ ЎЛАДАЛЬНІК ТРУБКІ ХОЧА НЕЙКІМ ЧЫНАМ ВЫДЗЯЛІЦЬ СВОЙ АПАРАТ З ШЭРАГУ АДНАТЫПНЫХ, ДЛЯ ЧАГО ЗВЫЧАЙНА ВЫКАРЫСТОЎВАЮЦЦА АДМЕТНЫЯ, НЕПАЎТОРНЫЯ МЕЛОДЫІ, СКАЧАНЫЯ З ІНТЭРНЭТУ. ДЛЯ ТАКІХ АМАТАРАЎ УДАСКАНАЛЬВАЦЬ СВАЕ МАБІЛЬНІКІ МЫ ДРУКУЕМ НАЙБОЛЬШ ПАПУЛЯРНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ МЕЛОДЫІ ДЛЯ ТЭЛЕФОНАЎ ВЫТВОРЧАСЦІ ERICSSON І NOKIA.

**ERICSSON**

**Бывайце здаровы, жывіце багата...**
cd#d#ddcc#dfggf#d#dg#a#a#gg+cgf#ddcc

**Нейра Дзюбель - Резиновый дом**
Gga#Ap#a+C#aa#Ap#a+c+c+c+d#aaGpffaGpp

**Песняры - Касіў Ясь канюшыну...**
#gfecfffg#gfecffff+C+c+#C+c+c#a#Ap#g#a+Cffff

**Мой родны кут, як ты мне мілы...**
f+c#g#Gpf+c#g+C#Cp#cccCpcegG#G

**Сябры - Лягу-прылягу**
ee+c#gaB#Fp#gab+cbAEpee+c#gaB#Fp#gab+cbA

**Развітанне з Радзімай (Паланэз Агінскага)**
Bpppp#ab+CBGg#fEppppGBB+EppppB+D+#C+C

**NOKIA**

**Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы...**
8e1 8e1 8c2 8#g1 8a1 4.b1 4.#f1 8- 8#g1 8a1 8b1 8c2 8b1 4.a1 4.e1 8- 8e1 8e1 8c2 8#g1 8a1 4.b1 4.#f1 8- 8#g1 8a1 8b1 8c2 8b1 4.a1

**Касіў Ясь канюшыну...**
8c2 8a1 8#g1 8e1 8a1 8a1 8a1 8b1 8c2 8a1 8#g1 8e1 8a1 8a1 8a1 8a1 4e2 8e2 4.f2 8e2 8e2 8d2 4d2 4- 8c2 8d2 4e2 8a1 8a1 8a1 8a1

**Паветраны шар**
8g1 8#f1 4e1 4b1 2e2 8d2 8e2 8d2 4b1 8g1 8g1 8#f1 4e1 4b1 4.c2 8c2 8d2 8e2 8d2 4.b1 8g1 8#f1 4e1 4b1 2e2 8d2 8e2 8d24b1 8g1 8g1 8#f1 4e1 4b1 4.c2 8c2 8d2 8e2 8d2 2a1

**Магутны Божа**
8e1 4a1 4b1 2c2 4.a1 8a1 4a1 8g1 8f1 4e1 8e1 8e1 4a1 4b1 4c2 8a1 8c2 4.d2 8c2 4.b1 8e1 4e2 8d2 8c2 4d2 4c2 2b1 4c2 8b1 8a1 4#g1 8e1 8e1 4a1 4b1 4c2 4d2 4c2 8b1 8a1 4.#g1 8a1 2a1

**Паланэз Агінскага**
4.e2 16#d2 16e2 8f2 8e2 8c2 16c2 16b1 4.a1 8c2 8e2 8e2 4.a2 8e2 8g2 8#f2 4.f2 8d2 8.b2 16a2 8.#g2 16f2 8e2 8d2 8e2 16e2 16d2 4.c2 8a1 16b1 16c2 16b1 16a1 16b1 16d2 16f2 16e2 16d2 16c2 16b1 16a1 16#g1 16a1 16b1 16#g1 4b1 4a1

**Радзіма! Мая дарагая!**
8c2 4c2 4a1 8- 8f1 8d2 16c2 16#a1 4c2 4.a1 4- 8d2 4d2 4#a1 8- 8g1 8f2 16e2 16d2 4.a1 4- 4- 8c2 4c2 4a1 8- 8#f1 8#d2 16d2 16c2 4d2 4c2 4#a1 4d2 4c2 4a1 8- 8a1 8#a1 16a1 16g1 2c2

**Радзіма! Мая дарагая! – 2**
Усё тое самае, што і ў першым варыянце, акрамя апошняй ноты – 2f1. Каму як падабаецца!

Безумоўна, мы не здолелі ўціснуць сюды ўсе мелодыі беларускіх выканаўцаў, таму раім наведаць поўную іх калекцыю на сайце **http://knihi.com.** Там жа ёсць мелодыі для ўладальнікаў трубак Siemens.

# ПОСТАВАНГАРДЫЗМ І ПЭРФОМАНС

ПАЧАТАК КАСТРЫЧНІКА У МЕНСКУ БЫЎ АДЗНАЧАНЫ ФЭСТАМ ПРАДСТАЎНІКОЎ НЭАБЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ. СВЯТА ДОЎЖЫЛАСЯ ТРЫ ДНІ, НА ПРАЦЯГУ ЯКІХ ТВОРЧЫЯ АСОБЫ ЗМАГЛІ ЗАЯВІЦЬ АБ СВАІХ МАГЧЫМАСЦЯХ І ПАМКНЕННЯХ. ДАРЭЧЫ, ВЕЛЬМІ СІМВАЛІЧНА, ШТО САМО ДЗЕЯННЕ АДБЫВАЛАСЯ Ў МУЗЕІ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ.

Вы можаце спытаць: "Што такое нэабеларуская літаратура, і хіба такія асобы, як Барадулін, Арлоў, Глёбус адносяцца да літаратуры мінулага?" Вось у гэтым і ўся справа, што на фоне беларускай літаратуры ды культуры ў цэлым з'явілася групоўка людзей (Зміцер Вішнёў, Альгерд Бахарэвіч, Ілля Сін, Вольга Агапеева), якія назвалі сябе "Другім фронтам мастацтваў" і пачалі ствараць новую літаратуру.

Новую у тым сэнсе, што ў мастацкіх творах выкарыстоўваюцца сюжэты, не зусім характэрныя для "стандартнай" літаратуры, а вырашэнне ўзнятых праблем адбываецца новымі, зусім невядомымі і невыкарыстанымі ў літаратуры папярэдняга перыяду шляхамі. Аналізуючы большасць твораў гэтых аўтараў, можна прыйсці да высновы, што асноўнымі праблемамі, якія хвалююць новае пакаленне творчай моладзі, з'яўляюцца: ўзаемаадносіны чалавека з чалавекам і адносіны чалавека да самога сябе, праблема будучыні беларускай нацыі ды шэраг іншых тэмаў, актуальных на сённяшнім этапе развіцця Беларусі. Тэмы, здаецца не новыя, але ж падыходы па іх вырашэнні ўражваюць. Каб быць менш галаслоўным, прывяду невялічкую цытатку з кнігі Альгерда Бахарэвіча "Натуральная афарбоўка":

"... Ён па-майстэрску праскочыў міма чалавека ў аранжавым гальштуку й хутка дагнаў дзядзьку ў чорным, які вёў беларусаў да клетак. Беларусы былі ўсе мокрыя і зблізку не такія прыгожыя, але нічога, такая ў іх праца. Хлопчык падыйшоў да іх. "Можна пагладзіць?" - запытаў ён, дрыжучы ад нецярпення. "Ты як сюды прапоўз?" - вохнуў дзядзька. Але насамрэч ён быў добрым і чулым чалавекам, які любіў не толькі жывёлаў, але і дзяцей. Хлопчыку нават дазволілі пакарміць беларусаў праз клетку".

Асобнае месца ў вышэйузгаданым фэсце мела мастацтва пэрфомэнсу. З'ява для Беларусі новая, але ў краінах захаду даволі распаўсюджаная. Пэрфомэнс, калі казаць спрошчана, наколькі гэта толькі магчыма ў дачыненні да гэтага віду мастацтва, – ёсць новы этап у развіцці драматургіі поставангардызму. Прычым перад публікай могуць выконваць пастаноўку як некалькі удзельнікаў (менавіта ўдзельнікаў, а не акцёраў), так і адзін чалавек. Адметнай рысай драматургіі поставангардызму з'яўляецца і тое, што твор можа выконвацца экспромтам і з прыцягненнем у якасці удзельнікаў відовішча саміх гледачоў. Такім чынам, аўтары перфомэнсу ў некаторых выпадках правакуюць гледачоў ды саміх выканаўцаў, у выніку чаго не заўжды з упэўненасцю можна ведаць, чым скончыцца дзеянне. Ад папярэдніх літаратурных плыняў перфомэнс пераняў моцны псіхалагізм дзеяння, мнагазначнасць вобразаў ды сімвалаў, тэндэнцыю да памяншэння колькасці ўдзельнікаў відовішча (так званы тэатр аднаго акцёра). Сярод асноўных прынцыпаў, якія даюць падставу казаць пра з'яўленне поставангардысцкагай драмы – адсутнасць галоўнай дзеючай асобы. Канешне, такая там ёсць, але ж яна не мае матэрыяльнага ўвасаблення, гэта значыць, што на першае месца ставяцца чалавечыя неасэнсаваныя рэфлексы, alter ego чалавечага існавання.

Вось вам апісанне пэрфомансу, які прэзентаваў творчасць Зьміцера Вішнёва:

Удзельнічае тры чалавекі. Сам Зьмій Віш (у сэнсе Вішнёў) і два памочнікі. Усё дзеянне суправаджаецца псіхалагізаванай музыкай, як паведаміла мне сяброўка, у выканаўстве і аўтарстве Вішнёва. На месцы дзеяння адзін чалавек дастае з торбачкі зялёнага кракадзільчыка і пачынае на марморовай падлозе музея гісторыі літаратуры рубіць ні ў чым не павінную тушу жывёліны на часткі. Зьмій Віш, разам з памочнікам, які сваёю вопраткаю надта нагадваў Смерць з малюнкаў мастакоў Рэнесансу, замазвалі жоўтай фарбай адзін з малюнкаў самога Вішнёва (да, забыў вам паведаміць, Вішнёў яшчэ лічыцца мастаком. Аб поставангардысцкім мастацтве мы паспрабуем зрабіць асобны артыкул). Пасля Вішнёў абматаў свой твор нейкім, адмыслова прынесеным для гэтай мэты дротам, і, напрыканцы ўсяго дзеяння, знішчыў уласнаручна свой малюнак...

Да адметнасцяў другога дня можна аднесці прэзентацыю п'есы Вольгі Гапеевай пад назвай "Рэканструкцыя неба". П'еса даволі складаная па сваім успрыманні, насычаная вобразамі-сімваламі і паўзамі, ад чаго асэнсаванне ўбачанага робіцца вельмі няпростым і неадназначным. Адна з маіх знаёмых пасля п'есы вельмі ціха на вуха спытала ў мяне: "Ты што-небудзь зразумеў?"

Рэзюмуючы напісанае можна сказаць, што поставангардызм – гэта з'ява, якая толькі нарадзілася на нашай культурнай ніве, таму казаць пра тое, што гэты накірунак цалкам сфармаваўся, пра ўплывы поставангардызму на іншыя накірункі, яшчэ ранавата. Адзінае, што можна сцвярджаць з упэўненасцю – "Другі фронт мастацтваў" заявіў аб сябе на поўныя грудзі, ці, кажучы ў духу поставангардызму, на поўныя жабры.

**Андрусь ЛЯЎЧУК**

СМАЧНА ЕСЦІ!

# МЯСА ПА-БЕЛАРУСКУ? НІЧОГА ДЗІЎНАГА!

ХАЙ ДАРУЮЦЬ НАМ ВЕГЕТАРЫЯНЦЫ, АЛЕ Ж МЯСНЫЯ СТРАВЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ КУХНІ – ВЕЛЬМІ НЕАБХОДНАЯ РЭЧ. ІХ ГАТУЮЦЬ СА СВІНІНЫ, ЯЛАВІЧЫНЫ, СВОЙСКАЙ ПТУШКІ.

Перавагу аддаюць мясу, тушанаму з агароднінай і грыбамі. Прыправы – перац, часнок, пятрушка і інш. выкарыстоўваюць умерана, менавіта таму беларускую кухню лічаць амаль што самай лёгказасваяльнай.

## СВІНІНА Ў ЦЕСЦЕ

*500 г свініны (кумпяк), 100 г здору або алею, 100 г мукі, 0,5 шклянкі малака, 1 яйка, соль, перац, часнок.*

Свініну тонка нарэзаць упоперак валокнаў, моцна адбіць, пасыпаючы кожны кавалак соллю, перцам і дробна нарэзаным часнаком. З мукі, яйка і малака прыгатаваць вадкае цеста, дадаць трошкі солі. Апускаць кавалкі падрыхтаванага мяса ў цеста і смажыць з абодвух бакоў у вялікай колькасці тлушчу.

## СВІНІНА АПЕТЫТНАЯ

*400 г свініны, 4-5 зубкоў часнаку, 1 яйка, 3-4 ст. лыжкі молатых сухароў, 4 ст. лыжкі тлушчу, соль, перац.*

Свініну нарэзаць з разліку адзін кавалак на порцыю, адбіць, пасаліць, паперчыць, пасыпаць тоўчаным часнаком, скруціць у выглядзе каўбасак (можна змацаваць завостранай драўлянай палачкай), укачаць у сухары, змачыць сырым яйкам і зноў укачаць у сухары. Абсмажыць у вялікай колькасці тлушчу і паставіць на 10-15 хвілін у духоўку.

## СВІНІНА СТРУГАНАЯ

*500 г свініны, 2 ст. лыжкі топленага сала, 2 цыбуліны, 0,75 шклянкі смятаны, 2 ст. лыжкі тамату-пюрэ, 1 ст. лыжка мукі, соль, перац.*

Свініну нарэзаць брусочкамі даўжынёй 3-4 см, пасыпаць соллю, перцам і абсмажыць на добра разагрэтай патэльні, дадаць падсмажаную цыбулю, смятану, змешаную з таматам-пюрэ, і пасераваную муку, разведзеную булёнам або вадой, давесці да кіпення.

Падаць с варанай бульбай.

## МАЧАНКА ПА-СЯЛЯНСКУ

*250 г свініны з рэбернымі косткамі, 250 г сырой каўбасы, 2 цыбуліны, 100 г сала, 2 ст. лыжкі мукі, соль, лаўровы ліст.*

Кавалкі свініны і сырой сялянскай каўбасы абсмажыць. Пшанічную або ячную муку развесці халоднай вадой і ўліваць у кіпень, увесь час памешваючы, да ўтварэння рэдкай мучной падліўкі. Дадаць соль, лаўровы ліст, пакласці кавалачкі падскваранага разам з цыбуляй сала, а таксама свініну і каўбасу. Паставіць на 20-25 хвілін у духоўку.

Да мачанкі падаць бліны або вараную бульбу.

## БІФШТЭКС ПА-БЕЛАРУСКУ

*400 г ялавічыны (выразка), 1 ст. лыжка здору, 4 зубкі часнаку, соль, перац.*

Мяса разрэзаць упоперак валокнаў на чатыры часткі, кожную злёгку адбіць, надаць круглую форму, пасаліць, паперчыць, пасыпаць змельчаным часнаком. Смажыць біфштэксы на моцна разагрэтай патэльні. Яны гатовы, калі пры націсканні з мяса не выдзяляецца чырвоны сок.

Падаць са смажанай бульбай і марынаванымі грыбамі.

## "ВОЖЫКІ"

*500 г фаршу (ялавічнага ці дамашняга), 2 цыбуліны, 2 ст. лыжкі рысу, 1 ст. лыжка тлушчу, 1 яйка, 2 ст. лыжкі тамату-пюрэ, 0,5 шклянкі смятаны, лаўровы ліст, соль, перац, зелень.*

Мясны фарш змяшаць з прамытым рысам, нашаткаванай цыбуляй, дадаць яйка, соль, перац, добра перамяшаць. Сфармаваць невялікія шарыкі, укачаць іх у муку, злёгку абсмажыць, перакласці ў жароўню, дадаць тамат-пюрэ, смятану, соль, уліць булён або ваду і тушыць на невялікім агні да гатоўнасці рысу. У канцы тушэння пакласці лаўровы ліст.

Падаць "вожыкі" разам з соусам, у якім яны тушыліся, пасыпаць дробна нарэзанай зеленню кропу або пятрушкі.

**Марыя ЕСІНА**

# ЧУМА XXI ВЕКА. КТО ВЫЖИВЕТ?

РЕАЛЬНОСТЬ ТАКОВА, ЧТО СПИД – ПРОБЛЕМА НЕ ТОЛЬКО МЕДИЦИНСКАЯ. ОНА ЗАТРАГИВАЕТ ВСЕ СТОРОНЫ ЖИЗНИ НАШЕГО ОБЩЕСТВА: ЭКОНОМИЧЕСКУЮ, СОЦИАЛЬНУЮ, ПОЛИТИЧЕСКУЮ. ОДНИХ ОНА КАСАЕТСЯ В МЕНЬШЕЙ СТЕПЕНИ, ДРУГИЕ НЕПОСРЕДСТВЕННО СТАЛКИВАЮТСЯ С ЭТОЙ ПРОБЛЕМОЙ ЛИЦОМ К ЛИЦУ, А ВЕРНЕЕ ЛИЦОМ К СМЕРТИ.

Наша общественность не привыкла, а вернее не хочет доверять СМИ, но той информации, которую мы хотим вам изложить, стоит не только доверять, но и задуматься.

Оперативные сводки о выявлении ВИЧ-инфекции на территории Республики Беларусь на 1 августа 2003г. выглядят следующим образом.

В Брестской области насчитывается 249 ВИЧ-инфицированных, причём 21 человек заразился в период с 1 января по 1 августа 2003г. Если проследить статистику по городам, то лидирующее место занимает город Пинск – 120 человек, далее – Брест и Барановичи: по 24 ВИЧ-инфицированных, в Лунинецком районе 19 человек заражены этим недугом.

Какой бы печальной ни казалась статистика по родному городу и региону, самой проблемной областью Беларуси является Гомельская. Там насчитывается 3103 человека, заражённых ВИЧ-инфекцией, из них 112 человек заразились в период с 01.01.03 по 01.08.03. В Минской области насчитывается 463 ВИЧ-инфицированных, причём по статистике город Минск стоит особняком. Там насчитывается 734 человек, поражённых ВИЧ-инфекцией. Могилёвская область насчитывает 235 ВИЧ-инфицированных, Гродненская – 181 и Витебская область – 165 человек.

Получается, что по республике зарегистрирован 5131 ВИЧ-инфицированный, но это официально, а неофициально эту цифру можно смело умножать на 10.




На фото: выставка детских рисунков на тему ВИЧ/СПИД. 18 мая 2003г.

Молодёжное общественное объединение "Созвездие" не остаётся в стороне от решения проблемы распространения ВИЧ/СПИД в молодёжной среде. Своим кусочком всемирного фронта, который сражается с вирусом СПИДа, мы выбрали информационно-образовательную работу среди молодёжи. На базе нашей организации существует и эффективно работает Центр равного обучения, занимающийся проблемой ВИЧ/СПИД, а также другими проблемами, затрагивающими здоровье молодого поколения.

Принцип равного обучения заключается в том, что специально подготовленные молодые люди (тренеры-мультипликаторы) передают полученную от специалистов информацию своим ровесникам на семинарах, которые проходят в школах и других учебных заведениях Бреста. Согласитесь, что молодым людям всегда проще найти общий язык, а значит и воспринять новую информацию, поделиться своими мыслями, опасениями. Тем более, что семинары проходят не в традиционной академической форме вопросов и ответов, а в живом общении, с применением современных интерактивных методик.

По словам Екатерины Дроздовой, одного из лучших тренеров Центра равного обучения, сотрудники Центра готовы с радостью принять в свой состав всех, кто желает стать тренером-мультипликатором. Ведь для будущих педагогов будет полезна не только практика общения со школьниками, но и обучение новым интерактивным методикам, используемым при проведении семинаров.

– У нас в Центре сложилась отличная команда: студенты, школьники-старшеклассники. А атмосфера, которая царит в команде! Дух здорового соперничества (кто больше проведёт семинаров) великолепно сочетается с дружеской поддержкой и взаимопомощью. Мы всегда можем посидеть и обсудить за чашкой чая, что у нас получилось хорошо, а что можно было бы в будущем делать по-другому, - говорит Катя. - Так что, если вам от 14 до 21 года и вы хотите попробовать себя в педагогической работе, милости просим. Уже опытные мультипликаторы научат вас различным педагогическим методикам, игровым методикам, а также в кругу друзей вы весело и с пользой проведёте своё свободное время.

Для интересующихся сообщаем контактный телефон Центра: (0162) 43-08-72 (Елена).

**Елена КИРИЧУК**

АБ'ЯВЫ

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ДЗІЦЯЧЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ КОНКУРС

### "Я БЕЛАРУС, І ТЫМ ГАНАРУСЯ!"

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" абвяшчае Чацвёрты рэспубліканскі дзіцячы конкурс сярод школьнікаў узростам 12-14 год. Конкурс будзе адбывацца па дзвюх намінацыях: мастацкія працы (малюнкі) і літаратурныя творы.

**Тэматыка твораў:**

– што значыць для мяне быць Беларусам;
– асабістае ўяўленне і ўспрыманне роднай культуры;
– вытокі любові да Радзімы.

Усе працы павінны мець прозвішча і імя ўладальніка, узрост, зваротны адрас, па магчымасці, кантактныя тэлефоны.

Прымаюцца малюнкі (вертыкальныя ці гарызантальныя памерам А3 (420х295) і А2 (420х590), а таксама літартурныя творы (верш, паэма, апавяданне, сачыненне і інш.). Працы на конкурс прымаюцца да **15 лістапада.**

**Адрас для дасылкі:** МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" вул. Рэвалюцыйная, 15, Менск, 220030

Пераможцы атрымаюць каштоўныя падарункі.

Кантактны тэлефон у Менску: (017) 289-31-94.

## КОНКУРС НА СОИСКАНИЕ СТИПЕНДИИ

ОТКРЫТЫЙ КОНКУРС НА СОИСКАНИЕ СТИПЕНДИИ ИМЕНИ СЕНАТОРА ФУЛБРАЙТА НА 2004-2005 АКАДЕМИЧЕСКИЙ ГОД.

Отдел информации, образования и культуры Посольства США в Республике Беларусь сообщает о начале очередного конкурса на соискание стипендии имени сенатора Фулбрайта в 2004-2005 академическом году.

Программа Фулбрайт финансируется Правительством США через Бюро по вопросам образования и культуры Государственного департамента США. Победители конкурса получают возможность проведения научно-исследовательской работы в течение учебного семестра (4-х месяцев) в одном из университетов США. Средства на проезд, проживание, а также повседневные расходы представляются за счет гранта американского правительства.

Конкурс является открытым. К участию в конкурсе приглашаются граждане Республики Беларусь, которые преподают в высших учебных заведениях и занимаются научно-исследовательской деятельностью, а также имеют степень кандидата или доктора наук. Обязательным условием участия в конкурсе является знание английского языка.

Объявляемый конкурс будет проводиться по следующим дисциплинам и областям знаний:

– экономика;
– право;
– управление образованием (университетский уровень);
– международные отношения;
– американистика;
– социальные науки (социология, политология и история);
– журналистика и СМИ;
– методика преподавания английского языка;
– информационные технологии;
– здравоохранение;
– социальная работа.

Более подробную информацию о программе, а также формы заявок можно получить в Отделе информации, образования и культуры Посольства США в Республике Беларусь по адресу:

ул. Герцена, 2-А, Минск 220030

Тел.: (017) 217-04-81, факс: (017) 211-03-84.

http://minsk.usembassy.gov.

Последний срок подачи заявок на участие в конкурсе – 5 ноября 2003г.

Консультации по вопросам подготовки проектов и заполнения аппликационных форм состоятся 23 и 30 октября 2003г. в 15⁰⁰ в Отделе информации, образования и культуры Посольства США в Республике Беларусь. Предварительная запись на консультации по тел.: (017) 217-04-81.

**Dzedzich week-news**



### ШАНОЎНЫ ЧЫТАЧ!

**Каб зрабіць наш бюлетэнь больш цікавым і прывабным для цябе і тваіх сяброў, мы звяртаемся да цябе з просьбай адказаць на гэтае пытанне і даслаць адказ на адрас: 224000, г. Берасце, пр-т Машэрава, д. 39, кв.4.**

Будзем вельмі ўдзячныя за тваю дапамогу ў стварэнні цікавай сучаснай газеты, а для лянівых паведамляем, што сярод тых, хто дашле нам свае заўвагі, мы разыграем 3 аўдыёкасеты з музыкай беларускіх гуртоў.

Чаго не хапае на старонках "Дзедзіча", якую інфармацыю ты хацеў бы атрымліваць праз яго: ______

### УВАГА!

Працягваецца бясплатная падпіска

**на Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь "Дзедзіч" для асоб, што не жывуць у г. Берасці.**

Калі ты жадаеш атрымліваць яго больш стала і аператыўна, запоўні гэты купон і дашлі яго на адрас:

**224000, г.Берасце, пр-т Машэрава, д. 39, кв. 4.**

Чаму ты вырашыў падпісацца: ______

Прозвішча: ______
Імя: ______
Імя па бацьку: ______
Паштовы адрас: ______
Тэлефон: ______



## ДАРЭЧЫ

– Колькі ты ведаеш спосабаў завязваць гальштук?
– Тры: на шыі, на руцэ, на назе... А, не – чатыры, чатыры спосабы!

***

...ЗША згортваюць праграму "нафта ў абмен на харчаванне" і разгортваюць новую праграму: "нафта на ХАЛЯВУ"...

***

У адказ на тое, што ўкраінцы збілі расейскі самалёт з габрэямі, расейскія генералы вырашылі збіць украінскі самалёт з габрэямі.

***

Надпіс на дзвярах венеролага:
«Без букета не заходзіць».

***

– Якая розніца паміж жанчынамі і батарэйкамі?
– У батарэек ёсць плюсы...

***

Жыццё – як зебра: чорная паласа, белая паласа, чорная, белая, а ў канцы ўвогуле – попа.

***

Падатковы паліцэйскі – гэта такі чалавек, які заўжды прыходзіць на выручку.

***

– Прывітанне дарагая. Мой казёл нарэшце дазволіў мне карыстацца сваім кампутарам, нават завёў паштовую скрынку... Так што – пішы мне на адрас: жана сабака жыцця кропка нет...

***

Чым даўжэй ногі – тым карацей ночы.

***

Я такія торбы з рынку цягаю – коні азіраюцца!

***

– Ну, што там, у Лондане?
– Што ў Лондане? У Лондане – смог.
– Лепш бы ты дома змог...

***

На вяселлі тамада забаўляе народ:
– Цішыня! А зараз конкурс – хто страшней скорчыць рожу!
Усе пачынаюць крыўляцца.
Праз хвіліну:
– Перамагла нявеста!
Нявеста, сумна:
– А я і не гуляла...

***

Як мы можам мець хаця б нейкія новыя ідэі ці свежыя погляды, калі дзевяноста адсоткаў усіх калі-небудзь жыўшых вучоных яшчэ не памерлі?

***

– Як прымусіць сваю карову залаяць?
– Заявіцца дахаты п'яным у тры гадзіны ночы...

***

– Ці праўда, што з узростам мазгавыя завіліны паступова пераходзяць у маршчыны на твары?
– Праўда! Таму пажылыя амерыканцы так добра выглядаюць...

***

Пытанне:
– Якія адносіны могуць быць паміж фізічным і філалагічным факультэтамі?
Адказ:
– Фізіялагічныя!!!

***

Пытанне: Што такое 17 см у даўжыню, 7 у шырыню і падабаецца жанчынам?
Адказ: 100$.

***

Спіць партызан у зямлянцы і, раптам, чуе, як хтосьці спускаецца
- Вась, гэта ты?
- Я.
- Тут дзесьці немцы ходзяць...
- Я-я!

***

Ідзе мужык з кніжкай в руках і, раптам, сустракае свайго сябра. Той пытаецца:
- А што гэта ў цябе за кніжка?
- Называецца "логіка".
- А што такое "логіка"?
- Ну, глядзі. У цябе ў хаце ёсць акварыум?
- Ну, ёсць!
- Значыць, у ім рыбкі жывуць.
- Ну, жывуць!
- Значыць, у цябе ёсць дзеці, якія з гэтымі рыбкамі гуляюцца.
- Ну, ёсць дзеці.
- Калі ў цябе ёсць дзеці, значыць у цябе ёсць жонка.
- Так.
- Калі ў цябе ёсць жонка і дзеці, значыць ты з ёю спаў!
- Ну, вядома ж!
- Значыць ты не гомік! Вось гэта і ёсць логіка!
- Зразумела, пайду сабе таксама такую кнігу куплю!
Пайшоў мужык, купіў сабе такую ж кнігу. Ідзе дахаты і сустракае суседа. Той у яго пытаецца:
- А што гэта у цябе за кніга?
- "Логіка" называецца.
- А што такое "логіка"?
- Ну, глядзі. У цябе ў хаце ёсць акварыум?
- Не, няма.
- Ну, значыць, ты гомік!

***

Аб'ява на радыёканцэрце па заяўках.
- А зараз для нашага слухача Салмана Радуева ставім песню Анжэлікі Варум "Ах, как хочется ворваться в городок"...

***

Сямейнае жыццё – гэта кожны дзень вайна і кожную ноч перамір'е...

***

Усплываюць побач дзве падводныя лодкі: расейская і амерыканская. З расейскай выскоквае чалавек 20 падводнікаў і пачынаюць рагатаць над трыма амерыкосамі, што высунуліся з амерыканскай.
Тыя, не разумеючы: "Чаго рагочаце?".
Расейцы:
- А вы што, утраіх вяслуеце?!!

***

Камары значна гуманней за некаторых жанчын!
Калі ўжо камар п'е тваю кроў – ён, прынамсі, перастае жужжаць...

***

Мужык прыйшоў на пошту адсылаць пасылку. У залі – ніводнага чалавека, а прыёмшчыца чытае газету.
Мужык звяртаецца да яе:
- Я бы хацеў...
Прыёмшчыца:
- Мужчына, станьце ў чаргу!
І працягвае чытаць газету.
- Прабачце, але тут...
- Мужчына, я вам што, не ясна сказала? Станьце ў чаргу!
Чытае газету далей. Мужык задумаўся, а пасля як плюне ёй у твар.
Прыёмшчыца:
- Ды што вы сабе дазваляеце, хам?! Зараз міліцыю выклічу!
- А чаму вы думаеце, што гэта я? Паглядзіце, колькі тут народу!

***

Выходзіць старшыня калгаса на сходзе і пагрозліва так кажа:
– Я ў апошні раз запытваюся – хто ў нас корміць свінняў "Гербалайфам"?

***

– Мне нельга... Не тут... Не зараз... Не туды!

***

Гена з Чабурашкай вырашылі папаліць. Гена кажа:
– Чабурашка, я вось зараз душ прыму, ты не палі, мяне пачакай, а потым мы распалімся...
– Добра, Гена, – адказвае Чабурашка.
Гена ў душ, а Чабурашка думае:
– А чаго ж гэта я яго чакаць буду? Зараз папалю, а калі ён выйдзе, у мяне ўжо прыход будзе!
Ну, папаліў, накрыла яго, расплюшчыла, а тут Гена з ваннай крычыць:
– Чабурашка! Прынясі мне рушнік, калі ласка! Я ў пакоі яго забыў.
Чабурашка – бац! – спужаўся: блі-ін, зараз ён заўважыць усё, зараз ён мяне запаліць, што я без яго паліў, блі-ін! Што ж рабіць? Што ж рабіць? Так, калі ўсё хутка зрабіць, як ён хоча, ён, напэўна, нічога і не заўважыць. Так, чаго ён прасіў? Рушнік! Вось ён, рушнік. Ён прасіў што з ім зрабіць? Так, прынесці прасіў. Куды прынесці? А, у ванную, ён жа душ прымае. Хто ён? Гена.. Генадзь... Душ... Рушнік. Так, галоўнае нічога не пераблытаць. Вось рушнік, вось ванная. Так, а што я яму скажу? Трэба так сказаць, каб ён мяне не папаліў, што я без яго зацягнуўся. Я яму скажу: "Ты прасіў рушнік? Ну, дык я яго прынес!"... Не, не пойдзе, занадта доўга. Я скажу: "Вось ваш рушнік, Генадзь!"... Не: "Генадзь! Вось ваш рушнік!"... Не, мы ж на ты з ім, значыць трэба так: "Гена, вось твой рушнік!". Дакладна: "Гена, вось рушнік!" і падаю рушнік. Дакладна. Усё. Пайшоў.
Падыходзіць, адчыняе дзверы, заглядае: "АААААА! КРАКАДЗІЛ!!!"

***

Аднойчы, пасля трох гадоў сумеснага жыцця жонка раптам пачала прыставаць да мужа з пытаннем пра тое, колькі ў яго было жанчын.
– Ну, давай, дарагі, скажы мне – з колькімі жанчынамі ты спаў?
– Каханая, гэта можа цябе засмуціць...
– Не. Абяцаю, я буду трымаць сябе ў руках і не буду злавацца!
– Ну, добра... (задуменна). Адна, дзве, тры, чатыры, пяць, шэсць, ты – сёмая, восем, дзевяць, дзесяць, адзінаццаць, дванаццаць...

№4 ДЗЕДЗІЧ
ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
кастрычнік 2003
ПРЫ ВЫКАРЫСТАННІ МАТЭРЫЯЛАЎ БЮЛЕТЭНЯ СПАСЫЛКІ НА КРЫНІЦУ АБАВЯЗКОВЫЯ
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі

**Заснавальнік:** Ініцыятыўная група моладзі
**Распаўсюджваецца бясплатна** на правах унутранага карыстання
**Падпісана ў друк:** 10.10.2003 у 18.00
**Наклад:** 299 асобнікаў. Надрукавана на ксераксе.

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый Шыманскі.
**Рэдакцыйная калегія:** А. Дземідзюк, Д. Дзянісаў, Д. Шастак, М. Есіна, А.Верамчук, У. Чаберкус
**Адказны сакратар:** М. Сялягін. **Вёрстка:** Б. Дэпеша

**Кантактны тэлефон:** (0162) 20-57-41, (029) 660-57-41
**E-mail:** dzedzich@mail.ru